



# Рэгіянальная газета

20 верасня 2013 года
№ 38 (960)

http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".




**навіны рэгіёна**



## Забойцу з Вілейкі расстраляюць

**ВІЛЕЙКА.** 17 верасня судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда Беларусі разгледзела крымінальную справу па касацыйных скаргах асуджанага на смяротную кару Гродзенскім абласным судом 12 чэрвеня Паўла Селюна. Прысуд пакінуты без змянення. Гродзенскі абласны суд прызнаў вінаватым 23-гадовага Паўла Селюна ў наўмысным забойстве дзвюх асоб, учыненым з асаблівай жорсткасцю, здзеку з трупа, тайным выкраданні маёмасці і крадзяжы ў грамадзяніна пашпарта і іншага важнага дакумента. За забойства дзвюх асоб, а таксама па сукупнасці злачынстваў суд прыгаварыў Селюна да выключнай меры пакарання.

## Прыгадалі пра Танка

**МЯДЗЕЛ.** У гарадскім Доме культуры 17 верасня адбылася літаратурна-музычная кампазіцыя "Бруіла ў сэрцы прага творчасці". Прымеркаваная яна была да 101-й гадавіны з дня нараджэння народнага паэта Беларусі, ураджэнца вёскі Пількаўшчына Максіма Танка. Са сцэны гучалі вершы, фрагменты дзённікавых запісаў паэта і песні на яго творы. Апроч мядзельскіх артыстаў, у імпрэзе ўдзельнічала народная артыстка Беларусі **Марыя Захарэвіч** – яна чытала вершы земляка.

**Аддзел інфармацыі.**


*Падпіска не заканчваецца!*



• навіны рэгіёна
• тэматычныя старонкі
• сустрэчы з цікавымі людзьмі
• магчымасць узяць удзел у рабоце над газетай у якасці КАМЕНТ-экспертаў
• шмат рэкламы і аб'яў

*Падпісацца на "РГ" можна на пошце.*
*Падпісны індэкс: **63212** (інд.), **632122** (вед.)*



Ювелирный магазин *"Золотая мечта"*
**предлагает широкий выбор**
**ИЗДЕЛИЙ ИЗ ЗОЛОТА И СЕРЕБРА с драгоценными камнями**
(бриллиант, топаз, гранат, сапфир, изумруд)
***Модная итальянская КОЛЛЕКЦИЯ СЕРЕБРА***
**Хорошее обслуживание и низкие цены приятно вас удивят**
*Ждем вас по адресу:* ***г. Сморгонь, ул. Я. Коласа, 120а, магазин «Евроопт»***
ЧТУП «БелПромСеть». УНП 690635632


# "Камедыі" – 20 год

**МАЛАДЗЕЧНА. Адкрыццё 23 тэатральнага сезона Мінскага абласнога драматычнага тэатра пачнецца юбілейным вечарам "20 гадоў разам!" Сёлета спаўняецца 20 год, як спектакль "Камедыя" іграюць на маладзечанскай сцэне.**



Фота з відэа Аляксандра ПАШКЕВІЧА.

**Акцёраў "Камедыі" грымуюць каля паўтары гадзіны. Злева направа: Давід (Яўген Іўковіч), Дзёма (Аляксандр Пашкевіч), Маланка (Эмілія Ларыёнава), уверсе – Чорт (Алег Чэчанеў).**

Гэты спектакль дасягнуў неверагоднага поспеху: адбылося амаль 300 прадстаўленняў, прытым, што ў правінцыйных гарадах радкія дажываюць да 150. Яго глядзелі некалькі дзясяткаў тысяч гледачоў. Ён стаў творчым сімвалам і візітнай карткай тэатра.

Кіраўнік літаратурнай часткі **Аляксандр Пыцько** лічыць, што спектакль прыцягвае гледачоў народным гумарам і паралелямі паміж беларускім менталітэтам таго часу і сучаснасцю.

– Пры гэтым усё настолькі прадумана: і сімвалы, і дыялогі, і гумар, – дадае Аляксандр Пыцько.

**Адкрыццё тэатральнага сезона адбудзецца ў сераду, 25 верасня. Пачатак а 18 гадзіне.**

Гэты спектакль беспройгрышны не толькі ў любым горадзе ці вёсцы Беларусі, але і за мяжой. У кастрычніку маладзечанскія акцёры паедуць на сёмы тэатральны фестываль Міжнароднага чарнаморскага клуба "Homo ludens" ("Чалавек гуляючы"). Украінцы запрасілі менавіта з беларускамоўнай "Камедыяй". З захапленнем яго прыняла беларуская дыяспара ў Санкт-Пецярбургу.

### З чаго ўсё пачыналася

Гаворачы пра настолькі значны для тэатра ў Маладзечне спектакль, абавязкова варта прыгадаць тых, хто спрычыніўся да яго прэм'ры, якая адбылася ў 1993 годзе.

Перад тым, як стаць зоркай, "Камедыя" была курсавой работай студэнтаў акцёрскага аддзялення тэатральна-мастацкага інстытута, зробленай на аснове п'есы **Уладзіміра Рудава** паводле твораў Каятана Марашэўскага і Францішка Аляхновіча.

Работу выпусцілі педагогі-рэжысёры Уладзімір Рудаў і **Андрэй Андросік**.

Менавіта дзякуючы тагачаснаму мастацкаму кіраўніку **Мікалаю Мацкевічу** ў Маладзечне на базе народнага тэатра ў 1991 годзе стварылі прафесійны, Мінскі абласны. Касцяком трупы былі артысты **Барыс Донін**, **Эмілія Ларыёнава**, **Аляксандр Пашкевіч**, **Сяргей Карзей**, **Ала Стэльмах**. Потым у тэатр прыйшлі **Алена Рахмангулава**, **Алег Чэчанеў**, **Ірына Камышава**.

Балетмайстар **Анатоль Кудраўцаў** удзельнічаў у падрыхтоўцы спектакля, дзякуючы яго нумарам той набыў яшчэ большую вобразнасць. Аляксандр Пашкевіч прыгадвае, што для кожнага персанажа ён знаходзіў сваю пластыку, свае рухі, якія раскрывалі характар, вынікалі з дзеяння і пры гэтым неслі штосьці новае.

Эмілія Ларыёнава адзначае, што акцёры ў "Камедыі" часта імправізуюць. Некаторыя імправізацыі паўтараюцца. Спектаклем заўсёды вельмі цікавіўся **Сяргей Вальковіч**, які тады быў дырэктарам тэатра. Ён прысутнічаў амаль на кожным прадстаўленні. А пасля яго ішоў у грымёрку і абмяркоўваў выступленне.

Ужо няма ў жывых ні Рудава, ні Андросіка, ні балетмайстра Кудраўцава, ні тагачаснага дырэктара Вальковіча. А спектакль жыве.

### У чым жа сэнс "Камедыі"?

Акцёрскі склад "Камедыі" істотна змяніўся за 20 гадоў. Адзіны, хто іграў сваю ролю на прэм'еры і грае цяпер – Аляксандр Пашкевіч, які выконвае ролю Дзёмкі. Ён прыгадвае, што Андросік настойваў, каб ў праграмцы былі такі анонс "Камедыі": "Пра селяніна Дзёмку, яго жонку Маланку, арандатара Давіда і Чорта, якія страцілі сэнс існавання".

– Усе персанажы "Камедыі" наіўныя, іх хочацца пашкадаваць, – распавядае Аляксандр Пашкевіч. – Яны хочуць дапамагчы, зрабіць як лепш, але ў іх не атрымліваецца. Яны самі сабе ствараюць сітуацыі, на якія потым скардзяцца, і думаюць, чаму ж ім так не шанцуе. Гэта так падобна на нас.

На першы погляд "Камедыя" можа падацца лёгкім спектаклем, які ў першую чаргу забаўляе гледачоў. Сапраўды, камічныя сітуацыі не могуць не прыцягваць увагу. Але хіба можа неглыбокі твор мастацтва так моцна трымаць увагу.

Сур'ёзны бок твора – яго аналіз беларускага менталітэту. У Марашэўскага і Аляхновіча Чорт размаўляў па-польску, у апрацоўцы Андросіка і Рудава – па-руску. Прытым, што астатнія героі беларускамоўныя. Апошняй фразай Дзёмкі "Куды ісці?" аўтары перадаюць становішча беларусаў, якое не ў многім змянілася ад пачатку 20 стагоддзя.

**Заканчэнне на 2-й стар.**

КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Пачалі рамантаваць дарогу ля рэдакцыі "РГ"

## Рамонт праезду ў дварах уздоўж гімназіі №6 да "Космасу", пра неабходнасць якога пісала "РГ", пачаўся

**МАЛАДЗЕЧНА. У пятніцу, 13 верасня, усталявалі адпаведныя дарожныя знакі, і работы пачаліся. Дарожнікі адзначаюць, што на гэтым участку працы нямала.**

У панядзелак, 16 верасня, вычышчалі і падсыпалі яміны на дарозе, што бліжэй да рынку. Потым перакрылі ўчастак каля гімназіі №6 і здымалі старыя барты.

Наперадзе ў дарожнікаў – выраўняць пакрыццё, заасфальтаваць гэты ўчастак праезду і ўсталяваць новыя барты.

Між тым, ужо цяпер нашмат працей праязджаць па падсыпанай частцы дарогі.

**Сёлета на рамонт праезду ўздоўж гімназіі №6 да "Космасу" выдаткавалі каля аднаго мільярда рублёў.**

Наша газета неаднаразова па просьбе чытачоў звяртала ўвагу камунальнікаў на тое, што гэтаму праезду неабходны рамонт. Спачатку мы падлічылі ямінЫ, якіх аказалася 193 на 150 метрах праезду. Потым зладзілі акцыю, падчас якой людзі, неабыякавыя да стану дарогі, фатаграфаваліся з адпаведнымі плакатамі.

Дырэктар "Камунальніка" **Мікалай Наздрын-Платніцкі** ў інтэрв'ю "РГ" сказаў, што правесці работы на гэтым участку дарогі ужо быў запланаваны раней:

– Прыкладна 900 мільёнаў рублёў закладзена ў бюджэце на 3-4 квартал сёлетняга года на абуладкаванне гэтай пешаходна-транспартнай сувязі.

Рамонт праезду пачаўся праз паўтара месяца пасля інтэрв'ю.

**Сёлета ў Маладзечне правялі ямачны рамонт 5,159 тысячы метраў квадратных заасфальтаваных дарог.**

Увесь праезд сёлета адрамантаваць не паспеюць. Частку работы закончаць у наступным годзе.

### Тым часам у Мядзеле

Цяпер у Мядзеле вядуць капітальны рамонт вуліц Камсамольская, Зорная, Школьная (на апошняй робяць тратуар каля сярэдняй школы №1).

У кастрычніку плануюць правесці капітальны рамонт вуліцы Камуністычнай – насупраць цэнтральнай раённай бальніцы. Тут пашыраць дарогу, зробяць тратуары і аўтапаркоўку.

У курортным пасёлку Нарач (Купа) будзе праводзіцца капітальны рамонт і дэкаратыўна-мастацкае афармленне вуліц Ленінскай і Нарачанскай з прылеглымі тэрыторыямі.

Большасць з гэтых работ выконваюць па праграме развіцця курортнай зоны Нарачанскага рэгіёна на 2011-2015 гады.

**Зоя ХРУЦКАЯ, Настасся РОЎДА, Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Настассі РОЎДЫ.

У сераду, 18 верасня, палову праезду перакрылі і вялі на ім рамонтныя работы.

ТРАНСПАРТ

# Адменяць цягнікі

**МАЛАДЗЕЧНА. ВІЛЕЙКА. На перагоне Вілейка–Маладзечна 26 верасня будуць рамантаваць чыгуначны мост.**

Таму ў гэты дзень цягнікі рэгіянальных ліній эканом-класа, якія адпраўляюцца ад станцый Крулеўшчына, Полацк, Глыбокае, будуць ісці да станцыі Вілейка і назад.

Цягнікі рэгіянальных ліній эканом-класа, якія ідуць па маршруце Маладзечна–Вілейка–Маладзечна, адмяняюцца.

Перавозіць пасажыраў па чыгуначных білетах паміж станцыямі Маладзечна і Вілейка будуць аўтобусы.

**Расклад руху цягнікоў рэгіянальных ліній эканом-класа на 26 верасня**

| № цягніка | Маршрут | Час прыбыцця |
|---|---|---|
| 6621/6622 | Глыбокае–Вілейка | 6.24 |
| 6625 | Полацк–Вілейка | 19.11 |

| № цягніка | Маршрут | Час адпраўлення |
|---|---|---|
| 6626 | Вілейка–Полацк | 9.26 |
| 6630 | Вілейка–Глыбокае | 21.02 |

**Расклад руху аўтобусаў на 26 верасня (без заезду на прыпынкі "Тышкевічы", "Даманоўскі", "Чырвоны Беражок", "Зеніт")**

| Вілейка–Маладзечна | |
|---|---|
| Адпраўленне са станцыі Вілейка | Прыбыццё на станцыю Маладзечна |
| 6.30 | 7.15 |
| 17.10 | 17.55 |
| 19.15 | 20.00 |

| Маладзечна–Вілейка | |
|---|---|
| Адпраўленне са станцыі Маладзечна | Прыбыццё на станцыю Вілейка |
| 8.35 | 9.20 |
| 16.14 | 17.00 |
| 20.13 | 20.58 |

Просім улічыць, што працяглась паездкі ў гэты дзень павялічыцца.

**Дадатковую інфармацыю аб раскладзе вы можаце атрымаць па тэлефонах: 74-24-23, 74-22-53, 105.**

**Аддзел інфармацыі.**

ВЫСТАВА

# Калекцыя старадаўніх фотаапаратаў

**ВІЛЕЙКА. У выставачнай зале музея адкрываецца выстава вядомага фатографа Віктара Суглоба.**

Фатограф пачынаў як фотааматар і ўжо больш за сорак год прафесійна займаецца фатаграфіяй. З'яўляецца ганаровым сябрам народнага фотаклуба "Мінск", а таксама творчага саюза "Фотамастацтва".

Выстава мастацкай фатаграфіі і невялікая калекцыя старадаўніх фотаапаратаў адкрываецца 27 верасня а 17.00 і будзе працаваць на працягу месяца.

**Аддзел інфармацыі.**

ТЭАТР

# "Камедыі" – 20 год

*Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.*

### Што новага хутка з'явіцца ў тэатры?

Пра спектаклі, над якімі працуе Мінскі абласны драматычны тэатр, распавёў мастацкі кіраўнік Мікалай Дзінаў.

– Боскую камедыю "Жизньубога" па п'есе беларускага драматурга **Дыяны Балыкі** маладзечанскія гледачы пабачаць дакладна сёлета, – гаворыць Мікалай Дзінаў. – Актрыса Эмілія Ларыёнава ў гэтым спектаклі іграе ролю спявачкі, у якой не атрымалася кар'ера. А яе дачку можна назваць нулём.

Гэта жанчына хоча помсціць, але за што помсціць? Гледачу ставяць пытанне, ці вартая чагосьці помста наогул. Але тэатр не адказвае на пытанні, а ставіць іх.

Упершыню рыхтуюць пластычны спектакль "Маўглі" па творы Рэд'яра Кіплінга.

Да 2014 года Мікалай Дзінаў рыхтуе спектакль, прысвечаны Васілю Быкаву, якому б споўнілася 90 год. Рыхтуе сцэнарый з дапамогай спадара Мікалая яго жонка **Галіна Кабякова** на аснове твора Быкава.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Што яшчэ глядзець гэтай восенню

У гэтым сезоне гледачоў чакаюць і леташнія прэм'ерныя спектаклі.

Ад 26 верасня можна глядзець камедыю "Сямейны партрэт з пабочнай асобай". Яе паставіў рэжысёр Сяргей Палешчанкоў.

Гэта іранічная тэатральная замалёўка пра жыхароў сельскай глыбінкі. Адзін пакойчык у хаце вясковай сям'і быў заняты пад "гасцініцу" для прыезджых. Туды і прыстроілі гарадскога мастака Віктара.

У гэтай сям'і ёсць юная прыгажуня Таня, на якую малады мастак адразу ж паклаў вока. Гэта не спадабалася мясцоваму Міхасю, бо ён таксама быў да гэтай дзяўчыны нераўнадушны. Міхась аб'яўляе, што гарадскі мастак – пастаянны кліент вар'ятоўкі. Інфармацыя пра нервовыя адхіленні прыўносіць у дзеянні герояў элемент лёгкага вар'яцтва. За смешнымі калізіямі стаіць сур'ёзная ідэя: у чалавечай падсвядомасці пастаянна дрэмле вірус падазронасці.

Ад 29 верасня запрашаем на яшчэ адну прэм'еру мінулага года – рэтра ў дзвюх частках "Падобны на Стынга" па аднайменнай п'есе беларускага драматурга Ірыны Пісьменнай.

П'есу паставіў мастацкі кіраўнік абласнога драмтэатра Мікалай Дзінаў. Ён вызначыў жанр спектакля як "аптымістычная трагедыя". Паводле сюжэта, галоўны герой, малады чалавек, якога асудзілі за забойства двух чалавек, уцякае з месца зняволення. З "зоны" трапляе ў іншую зону – чарнобыльскую.

У апусцелай, атручанай радыяцыяй вёсцы яго выратоўвае жанчына, якая насуперак усяму жыве тут. "Падобны на Стынга" распавядае найперш пра Чарнобыль духоўны, бо ўцякач прынёс з сабой у чарнобыльскую зону ўсё, што набыў на "зоне" турэмнай: боязь, нянавісць, падазронасць, бязвер'е ў дабро.

У спектаклі любоў у высокім сэнсе супрацьстаіць боязі і таму цёмнаму, што выяўляецца ў чалавеку ў крайніх выпадках.

**Аляксандр ПЫЦЬКО, кіраўнік літаратурнай часткі тэатра.**

Рэгіянальная газета
(0176) 753841

ТЕПЛИЦЫ 4, 6, 8, 10 метровые
БЕСЕДКИ Поликарбонат.
Возможна доставка, сборка, рассрочка до 3-х мес.
Т. (8-029) 325-80-20, (8-029) 295-29-53. Сайт www.svkr.by
ООО «Светопрозрачная кровля». УНП 591001987

ЛОМБАРД
ДЕНЬГИ ЕСТЬ ВСЕГДА!
ПОД ЗАЛОГ:
ювелирных изделий, видеокамер, цифровых фотоаппаратов, ноутбуков, TV, мобильных телефонов и т.д.
БЕЗ ШТРАФОВ • БЕЗ КОМИССИИ • БЕЗ ПЕНИ
СПЕЦИАЛЬНОЕ ДОБРОЕ ПРЕДЛОЖЕНИЕ
для социальных групп населения, а так же военнослужащих!
г. Вилейка, ул. 17 сентября, 29
8 (01771) 77 6 77
г. Молодечно, ул. Будавников, 15а
8 (0176) 77 30 06
ЧУП "Платина-груп" УНП 190696758
Лиц. №21-01084, выд. 09.10.12.-08.10.22., Министерством финансов Республики Беларусь

КАМІТЭТ ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ ІНФАРМУЕ

# Валожынская бытоўка працуе неэфектыўна

**ВАЛОЖЫН. Камітэт дзяржкантролю праверыў Валожынскі раённы камбінат бытавога абслугоўвання.**

Прадпрыемства не атрымала чаканы эканамічны эфект, для якога выдаткавала пэўныя бюджэтныя сродкі.

За кошт бюджэту яно набыло машыну для здраблення агароднiны і сокавыцiскалку, каб аказваць новыя бытавыя паслугі. Аднак тэхніку так і не пачалі выкарыстоўваць, яна стаiць ад 2007 года.

З-за малога попыту на абутковых майстроў і недахопу кадраў пустуюць два месцы абутнікоў. Пры гэтым дакладнай стратэгіі выкарыстання абсталявання няма.

Неэфектыўна выкарыстоўваюцца рабочыя месцы цырульнікаў у вёсках. Клiентаў абслугоўваюць па меры запiсу двойчы на тыдзень. Не на поўную загрузку выкарыстоўваюць працоўныя месцы швачак. З-за таго, што няма адпаведнага спецыяліста, пустуе кабінет па манікюры ў будынку Дома быту ў Валожыне.

У бухгалтарскім уліку не лічацца выдаткі па рэканструкцыі Дома быту ў Валожыне на 1050 мільёнаў рублёў, якія ў 2006-2009 гадах былі выдзеленыя са сродкаў бюджэту. Гэты аб'ект эксплуатуюць без прыёмкі ва ўстаноўленым парадку. Увялі яго толькі пасля ўмяшальніцтва Камітэта дзяржкантролю.

Праверка знайшла шмат парушэнняў у вядзенні бухуліку, працоўнага заканадаўства, санітарных норм і гігіенічных нарматываў, у парадку распараджэння адходамі. Да парушэнняў адносіцца і тое, што прадпрыемства падавала недакладныя звесткі ў органы дзяржаўнай статыстыкі.

Цяпер разглядаецца пытанне аб прыцягненні службовых асоб за парушэнні да дысцыплінарнай і адміністрацыйнай адказнасці.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Чатыры ДТЗ за выхадныя

**МАЛАДЗЕЧНА. Вечарам 13 верасня 21-гадовы кіроўца за рулём аўтамабіля ВАЗ пад'язджаў да Гарадка. Ля дома 90 на закругленні ўлева ён з'ехаў у кювет.**

Кіроўца пры выбары хуткасці не ўлічыў умовы дарогі і надвор'я. Ён наехаў на бетонны насціл на ўездзе ў двор. Ад удару атрымаў сур'ёзныя пашкоджанні. Мужчыну даставілі ў рэанімацыю, распавёў дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош**.

З розніцай у некалькі хвілін аварыя здарылася ў самім Маладзечне. 34-гадовы кіроўца "Фольксвагена-Гольф" на вуліцы Будаўнікоў наехаў на 50-гадовага пешахода.

Пешаход быў у межах бачнасці рэгулюемага пешаходнага перахода, але пераходзіў ва неўстаноўленым месцы. Пешаход атрымаў цялесныя пашкоджанні.

**У суботу, 14 верасня, каля 20.30 20-гадовы маладзечанец кіраваў "Маздай". На перасячэнні Вялікага Гасцінца і вуліц Буйніцкага-Машэрава ён на зялёнае святло паварочваў улева.**

Маладзён не саступіў "Аўдзі А4", якая ехала насустрач. З-за сутыкнення 30-гадовы пасажыр "Аўдзі", жыхар Насілава, атрымаў пашкоджанні.

**Ноччу 15 верасня 36-гадовы жыхар Мінска рушыў на БМВ Х5 у бок Маладзечна.**

У мястэчку Краснае на вуліцы Першага мая наехаў на 24-гадовага жыхара Мінска. Пацярпелы пераходзіў дарогу ва неўстаноўленым месцы. Яго даставілі ў рэанімацыю.

Сяргей Бартош звяртае ўвагу: ад пачатку верасня маладзечанскае ДАІ затрымала 36 чалавек, якія ўжывалі алкаголь да ці адразу пасля дарожна-транспартных здарэнняў. 14 чалавек не мелі правы адпаведнай катэгорыі, калі кіравалі аўтамабілем.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

РЭКЛАМА

# Узлёт продажаў у малым бізнесе: мара ці рэальнасць?

**Многія ўладальнікі бізнесу вельмі слаба знаёмыя з прадметам продажаў. Сувязь паміж намаганнямі і вынікам тут у лепшым выпадку ўспрымаецца інтуітыўна , а часам і не асэнсоўваецца зусім.**

Можа здацца, што варта толькі выканаць пэўныя мерапрыемствы:

- дацьпрыкметную рэкламу;
- навучыць супрацоўнікаў добра працаваць з кліентамі;
- наладзіць пытанні забеспячэння, і продажы абавязкова ўзрастуць.

Пры гэтым мала хто з кіраўнікоў ясна ўяўляе сабе, што менавіта і як будзе адбывацца, і якой будзе фінансавая аддача.

Аднак, існуе іншы падыход. **Працэс продажаў падпарадкоўваецца цалкам вызначаным заканамернасцям, і ў малым бізнесе кожны ўладальнік можа выбудаваць адладжаную сістэму продажаў. Гэта сістэма павінна быць :**

- **кантраляванай**, дзе ўладальнік добра разумее, што прынясе кожны крок;
- **празрыстай**, гэта значыць, усе складнікі дакладна прапісаныя і зразумелыя выканаўцам і кіраўніцтву;
- **адладжанай**, дзе кожнае звяно наладжанае і працуе аўтаматычна, не патрабуючы пастаяннага кантролю з боку ўладальніка;
- **дапускаць ўзаемазамяняльнасць кадраў** без стварэння сур'ёзных праблем.

Добрыя спецыялісты, вядома, будуць карысным фактарам, але сістэма не будзе залежаць ад асабістых якасцяў некалькіх ключавых работнікаў. У выпадку, калі хтосьці сыходзіць, вы хутка замяняеце гэтага чалавека іншым. **Для таго каб стварыць такую сістэму продажаў, вам трэба добра разумець галоўныя складнікі і старанна прапрацаваць іх :**

- **уваходны паток** – людзі, якія могуць стаць вашымі кліентамі, даведацца аб вашай кампаніі любым даступным спосабам;
- **канверсія** – якім менавіта чынам вы атрымліваеце рэальных пакупнікоў з ўваходнага патоку, як уздзейнічаеце на людзей, каб прывесці іх да куплі;
- **сярэдні чэк** – якую суму ў сярэднім траціць кліент, здзяйсняючы пакупку;
- **колькасць пакупак**, якія робіць адзін кліент за вызначаны перыяд, напрыклад, за месяц, квартал ці год;
- **маржа** – які працэнт прыбытку вы закладваеце ў свае продажы.

Цяпер, каб павялічыць продажы, вам трэба папрацаваць над паляпшэннем кожнага з гэтых пунктаў. А каб пабудаваць такую дакладную сістэму продажаў, варта наладзіць ясныя для выканання працэсы, звязаныя з кожным з гэтых множнікаў.

Працаваць трэба над усімі складнікамі, каб у вашай сістэме продажаў не было слабых звёнаў. Бо вядома, што эфектыўнасць сістэмы абмяжоўваецца працай самага слабага яе звяна. **З чаго ж пачаць? На першы погляд, трэба павялічыць ўваходны паток кліентаў, і справа наладзіцца. Але гэта самы дарагі спосаб павелічэння продажаў. Ён, вядома, працуе, ды толькі абыходзіцца ў немалую суму**

Калі ў вас няма лішніх грошай на шумныя рэкламныя кампаніі, то лепш пачаць з павелічэння сярэдняга чэка. Самае простае дзеянне ў гэтым кірунку – прапаноўваць кліенту, які нешта купляе, што-небудзь яшчэ, гэта дае цалкам адчувальнае павелічэнне аб'ёмаў продажаў. А за запытанне не б'юць у нос, ці не так?

Другі накірунак працы – павелічэнне канверсіі. Гэта значыць, каб са 100 пакупнікоў, якія зайшлі, зрабілі пакупку не 10 чалавек, а хаця б 12-15. Вашы даходы пры гэтым павялічацца на 20-50 %!

Трэці па ліку кампанент – павелічэнне колькасці пакупак за перыяд. Вам трэба дамагчыся, каб вашы кліенты прыходзілі да вас яшчэ і яшчэ, і тады вы атрымаеце добрае ўзнагароджанне за вашы намаганні.

І, нарэшце, апошні кампанент – павелічэнне ўваходнага патоку. Тут пераважна прымяняюцца дарагія рэкламныя хады, але ёсць і іншыя спосабы прыцягнення кліентаў, аж да бясплатных. Толькі тут трэба захоўваць разумны баланс: калі не хочаце укладваць грошы, прыйдзецца прыкласці больш асабістых намаганняў і затраціць часу. А яшчэ існуюць спосабы павелічэння эфектыўнасці той рэкламы , якую вы ўжо даяце ў СМІ, але пра гэта мы, магчыма, пагаворым асобна.

Напэўна, вы звярнулі ўвагу на тое , што я не згадаў аб павелічэнні маржы. У рэчаіснасці гэта азначае адно: павелічэнне адпускных коштаў. Ці выкарыстоўваць дадзены спосаб, вы павінны вырашаць узважана.

І напрыканцы хочацца выдзеліць вельмі важную дэталь: праца над усімі паказчыкамі дае кумулятыўны эфект. Гэта значыць, што калі вы ненашмат палепшыце кожны кампанент, у выніку атрымаеце вельмі адчувальную аддачу. Напрыклад, пры павелічэнні кожнага паказчыка ўсяго на 15% вашы даходы падвояцца ! Значыць, ёсць сэнс заняцца гэтым.

**Больш падрабязна аб тэхніках павелічэння продажаў вы можаце даведацца на маіх майстар -класах, якія праводзяцца ў Маладзечне.**

**Яўген МІЦКЕВІЧ , бізнес-кансультант. Тэл . +375 29 6961596.**

УНП 600165341

| Курсы валют НБ РБ | 12.09 | 19.09 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 9 050,00 | **9020,00** |
| Еўра | 12 000,00 | **12060,00** |
| Злоты | 2 833,35 | **2850,15** |
| Літ | 3 477,23 | **3491,27** |
| Расійскі рубель | 274,50 | **280,00** |
| Грыўня | 1 106,83 | **1101,56** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 9050/9100 | **9030/9090** |
| Еўра | 11990/12080 | **12100/12300** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 11.09 | 18.09 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 105800 | **108500** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 45050 | **45000** |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 70000 | **70000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 24500 | **25500** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 23800 | **23800** |
| **Селядзец**, 1 кг | 23500 | **23500** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 89000 | **85000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 10000 | **10100** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 9300 | **9300** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 9000 | **9000** |
| **Алей** | 15900 | **16200** |
| **Маянэз**, 200 г | 5200 | **5200** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7600 | **7800** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 30000 | **30000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 8900 | **8900** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 5500 | **5000** |
| **Капуста**, 1 кг | 5000 | **5000** |
| **Морква**, 1 кг | 5500 | **4500** |
| **Буракі**, 1 кг | 5500 | **5000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 20000 | **20000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 14500 | **15000** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 23000 | **22500** |
| **Памідоры**, 1 кг | 8500 | **10000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 7500 | **10000** |
| **Перац**, 1 кг | 8500 | **8500** |
| **Вінаград**, 1 кг | 20000 | **23000** |
| **Бананы**, 1 кг | 12000 | **12000** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 6500 | **6000** |
| **Грушы**, 1 кг | 12500 | **12000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 13000 | **13000** |
| **Масла**, 1 кг | 60000 | **60000** |
| **Тварог**, 1 кг | 30000 | **30000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 15000 | **15000** |
| **Бульба**, 1 кг | 5000 | **3500** |
| **Мёд**, 1 кг | 50000 | **50000** |

Молодечненский ф-л УП «Минское отделение БелТПП» приглашает всех желающих на

**курсы по изучению иностранных языков**

*Занятия проводятся 2 раза в неделю, в вечернее время.*

*Начало занятий по мере комплектования групп.*

Тел.: **70-31-16**

***г. Молодечно, ул. Буховщина, д.60, корп.1, пом.54***

УНП 100144204

**ПЕРЕВОДЫ С/НА:**

**английского, испанского, итальянского, немецкого, польского и французского языков**, в том числе и для последующего нотариального заверения. Тел. **70-31-16**

**ОЦЕНКА ВСЕХ ВИДОВ ТРАНСПОРТНЫХ СРЕДСТВ И ИМУЩЕСТВА** (машин, оборудования и пр.), находящихся в государственной и негосударственной собственности.

Тел. **70-31-15, 75-35-74**

Молодечненский ф-л УП «Минское отделение БелТПП»

***г. Молодечно, ул. Буховщина, д. 60, корп.1, пом.54***

УНП 100144204

ПРАКУРАТУРА, СУД

# Разлічыўся чужой пластыкавай карткай на тры мільёны

**АСТРАВЕЦ. Жыхар Астравецкага раёна А. разлічваўся ў некалькіх крамах па чужой банкаўскай картцы, а гаспадар думаў, што згубіў яе.**



Разлічваўся злачынца чужой карткай не адзін раз.

17 ці 18 красавіка ў доме-інтэрнаце ў вёсцы Альхоўка А. сцягнуў картку з кішэні курткі, якая была на вешалцы.

Больш за месяц А. разлічваўся чужой карткай праз тэрміналы, у якіх не трэба ўводзіць пін-код. Ён набываў тавары ў краме ў Міхалішках, аплаціў паслугі "Белпошты" – усяго патраціў больш чым тры мільёны рублёў.

Пацярпелы не адразу даведаўся, што хтосьці карыстаецца яго грашыма. Напярэдадні кражы ён зняў 400 тысяч рублёў і паклаў картку ў кішэню. Дома павесіў куртку. Калі заўважыў, што картка знікла, у міліцыю спачатку не звяртаўся. Вырашыў, што картку згубіў.

У маі, калі прыехаў у банк па новую картку, зразумеў, што частка грошай знікла.

А. прызнаў віну. Суд прызначыў яму пакаранне – пазбаўленне свабоды на адзін год, але з адтэрміноўкай на год. Ён павінен выплаціць пацярпеламу ўкрадзеныя грошы. Суд прымусіў яго лячыцца ад хранічнага алкагалізму.

А. 42 гады. Ён жыве ў вёсцы Альхоўка Астравецкага раёна. Мае сярэднюю адукацыю. Халасты. Раней судзімасцяў не меў.

**Анастасія ЮРКОЙЦЬ,**
**памочнік пракурора Астравецкага раёна.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Смерць ад расліны цыкуты: завяршылі праверку

**МЯДЗЕЛ. У Мядзельскі райаддзел міліцыі 21 красавіка паступіла паведамленне ад фельчара "хуткай дапамогі" Свірскай участковай бальніцы. У лесе на тэрыторыі прыроднага комплексу "Блакітныя азёры" памёр 31-гадовы мужчына.**

Раённы аддзел Следчага камітэта правёў праверку па гэтым факце. Згодна з заключэннем судова-медыцынскай экспертызы, ён памёр ад атручэння раслінай – цыкутай.

Мужчына быў заўзятым турыстам. У складзе турыстычнай групы з сямі чалавек ён удзельнічаў у байдарачным паходзе па Нарачанскіх азёрах. Яго цікавіла экстрэмальнае выжыванне: бывала, што еў лісткі і карэньчыкі. Са слоў сведак, мужчына дастаў з возера карэньчык, абчысціў яго і з'еў.

Праз паўгадзіны пачаў скардзіцца на недамаганне, ваніты, з'явіліся сутаргі, ён стаў задыхацца. Рэанімацыйныя мерапрыемствы ніякіх вынікаў не далі. Пасля сведкі казалі, што мужчына зблытаў цыкуту з ядомай раслінай – сніткай. Яго гібель стала вялікай трагедыяй для яго жонкі і чатырохгадовага сына.

Цыкута – адна з самых ядавітых раслін. Іншыя яе назвы: вех ядавіты, кашачая пятрушка, вяха, амег, вадзяная бешаніца, вадзяны балігалоў, мутнік, сабачы дзягіль, гарыгалава, свіная вош. Ядавітая яна ўся, а асабліва карэнішча. 100-200 грамаў карэнішча дастаткова, каб забіць карову, а 50-100 – авечку. У смале караня ўтрымліваецца цыкутасін, найбольш ядавіты пачатак расліны: праз некалькіх хвілін пасля ўжывання ён выклікае ваніты, колікі ў ніжняй частцы жывата, за якімі можа наступіць галавакружэнне, паходка стане хісткай, пойдзе пена з роту. Зрэнкі расшыраюцца, эпілептыформныя прыпадкі і сутаргі могуць скончыцца паралічом і смерцю.

Пры атручэнні неабходна хуткае прамыванне страўніка сродкам з актываванага вугалю і таніну. Іншага супрацьядзя ад яе няма.

Па выніках праверкі аддзел Следчага камітэта прыняў рашэнне аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы.

Паважаныя жыхары і госці Нарачанскага краю! Ніколі не ешце невядомыя ягады, грыбы, расліны, карані... Калі ўсё ж такі атруціліся, па-першае, неадкладна выклікайце "хуткую дапамогу". Да яе прыезду прамывайце страўнік. Піце многа вадкасці.

Па-другое, нават калі стан палепшыцца, абавязкова звярніцеся ў бліжэйшую медыцынскую ўстанову.

Па-трэцяе, недаедзеныя расліны, ягады і грыбы не выкідвайце. Іх аналіз дапамажа дактарам хутчэй вызначыць від яду, які трапіў у арганізм.

Самае галоўнае – ніякага самалячэння: чым больш таксінаў трапіць у кроў, тым больш цяжкім будзе атручэнне.

**Ганна САКАЛДЫНСКАЯ,**
**следчы Мядзельскага раённага аддзела Следчага камітэта РБ, старшы лейтэнант юстыцыі.**

Партизанский (г. Минск) отдел Департамента охраны МВД РБ приглашает на службу на должности
• МИЛИЦИОНЕРОВ
• МИЛИЦИОНЕРОВ-ВОДИТЕЛЕЙ
• МИЛИЦИОНЕРОВ-КИНОЛОГОВ
лиц, годных к строевой службе в армии, образование не ниже среднего, возраст до 25 лет, служба в армии не обязательна
иногородним предоставляется общежитие
кандидаты имеют возможность пройти льготное обучение на курсах водителей кат. В
Тел.: (017)245-67-83, 245-62-81
Обращаться: г. Минск, ул. Уральская, 9-б

КРОВЛЯ
со склада в г.Минске
• Гибкая черепица
• Металлочерепица
• Рулонная кровля
Доставка. Кредит
ДомаМир
633-07-07
www.domamir.by
УНП 190845327 ООО "ДомаМир"

Фрунзенский (г. Минска) отдел Департамента охраны МВД Республики Беларусь объявляет набор на должности
МИЛИЦИОНЕРА - ГРУППЫ ЗАДЕРЖАНИЯ - ВОДИТЕЛЯ
Требования: не старше 25 лет, с образованием не ниже среднего, в том числе заочно обучающиеся, а также неслужившие в Вооруженных Силах, признанные годными к строевой службе.
ПРЕДОСТАВЛЯЕМ ОБЩЕЖИТИЕ.
ЭЛЕКТРОМОНТЕРА ОПС
Тел. (017) 201 49 46
(029) 699 65 80
Наш адрес: г. Минск, ул. Пономаренко, 4, группа кадров

Рэклама: +375176753841

НЯШЧАСНЫ ВЫПАДАК

## Трагедыя на сметніку: засыпаў насмерць

**ВІЛЕЙКА. Пра тое, што знайшлі труп, у міліцыю паведаміў трактарыст вілейскай ЖКГ днём 2 верасня.**

Загінулая – 43-гадовая жыхарка Вілейскага раёна.

У гэты дзень на палігоне цвёрдых бытавых адходаў працаваў бульдозер. Кіроўца не заўважыў жанчыну, якая была на месцы, дзе вяліся работы, засыпаў смеццем і згроб у агульную кучу.

Ад атрыманых пашкоджанняў жанчына загінула.

Узбуджаная крымінальная справа.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

УВАГАГА! ВЫШУК

## Дапамажыце міліцыі

**МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА. Маладзечанскі і Вілейскі райаддзелы міліцыі шукаюць зніклых.**



**Лукоўскага Сяргея Мечыслававіча**, які нарадзіўся 13 красавіка 1965 года і жыве ў Маладзечне па вуліцы Велікасельскай. Трэцяга чэрвеня ён паехаў на заробкі ў Санкт-Пецярбург, і цяпер яго месцазнаходжанне невядомае.

Яму 48 год, рост 170. Хударлявы. Авальны твар, блакітныя вочы, прамыя цёмна-русыя валасы. Звонкі голас, яснае маўленне.



**Мамай Алесю Іванаўну**, нарадзілася 9 чэрвеня 1981 года, жыве ў Маладзечне па вуліцы 17 верасня. 30 жніўня яна паехала на рынак "Лябяжы" на пераборку агародніны і фруктаў, і цяпер месцазнаходжанне невядомае.

Ёй 31 год, рост каля 170. Сярэдняй паўнаты. Авальны бледны твар, чорныя вочы, верхняя вусны выступаюць, прамыя чорныя валасы. Звонкі голас і яснае маўленне.

Была апранутая ў чорную байку, карычневы гольф, цёмна-сінія джынсы, шлёпанцы. Пры сабе мела чырвоны пакет.

Пераканаўча просім усіх, хто штосьці ведае аб месцы знаходжання зніклых, паведаміць у Маладзечанскі РАУС па тэлефонах: **8(0176) 74-96-83, 77-03-12, 77-16-56** ці па тэлефоне **102.**



Ураджэнца і жыхара вёскі Асавец Вілейскага раёна **Міхаіла Цімафеевіча Новаша**, 1947 года нараджэння.

Сёлета 31 ліпеня ён выпісаўся з інфекцыйнай бальніцы Валожына, пасля чаго аб яго месцазнаходжанні нічога невядома.

Прыкметы: на выгляд 70 гадоў, рост 165-170 см, пры хадзьбе сутуліцца, ходзіць няспешна.

Быў апрануты ў камуфляваны касцюм і гумовыя боты.

Просьба да тых, каму што-небудзь вядома аб месцы знаходжання Міхаіла Новаша, паведаміць у Вілейскі РАУС па тэлефонах: 8-01771 56462, 54100, м.т. 8 (044) 7451198 ці 102.

**Маладзечанскі райаддзел міліцыі,**
**аддзяленне крымінальнага вышуку Вілейскага райаддзела міліцыі.**

ПАЖАРЫ

## Палілі печ – загарэўся дом

**ВІЛЕЙКА. 15 верасня каля паловы на васямнаццатую выратавальнікам паступіла паведамленне пра загаранне ў жылым доме у вёсцы Ізбіно.**

На месца накіраваліся чатыры аўтацыстэрны. Па прыбыцці дах гараў адкрытым полымем.

– Супрацоўнікі аддзела па надзвычайных сітуацыях не далі распаўсюдзіцца агню, – расказаў інспектар Дзяржпажнагляду **Дзмітры Кляшняк**. – У выніку знішчаная толькі частка даху, абгарэў франтон дома, пашкоджаныя рэчы на паддашку.

У доме пражывае 69-гадовы пенсіянер. Да дома прыбудаваная лазня, там палілі печ. Комін зроблены з металічнай трубы, якая праходзіць праз паддашак. Яна нагрэлася, і загарэліся рэчы на паддашку.

**Аддзел інфармацыі.**

# Нямецкім гімназістам спадабаліся лазня і піца

**МАЛАДЗЕЧНА. Нямецкая група з Хайнбергскай гімназіі горада Гётынгена прыехала ў маладзечанскую школу №5 у пятніцу, 13 верасня.**

Першыя тры дні дзецям далі вольны час, каб яны бліжэй пазнаёміліся паміж сабой. Беларускія школьнікі правялі сваім замежным сябрам экскурсію па горадзе, схадзілі разам з імі ў Лядовы палац і пакармілі маладзечанскай піцай.

– Адзін дзень у нас быў агульны начлег, які ладзілі ў маёй хаце, – кажа вучаніца 10 класа **Ганна Сасноўская**. – Да мяне прыйшлі аж 18 чалавек. Хто спаў на ложку, а хто і на падлозе. Нямецкім гімназістам вельмі спадабалася мыцца ў лазні, якую напалілі мае бацькі.

– Я ў захапленні ад вашага парку і Цэнтральнай плошчы, – распавядае гімназістка **Леа Кляйн**. – У вас вельмі прыгожы цэнтр горада.

– А мне спадабалася ў Лядовым палацы, асабліва сама лядовая арэна. А таксама музей у Дудутках, – дзеліцца сваімі ўражаннямі **Ханна Туліус**.

Многія нямецкія вучні павязуць у падарунак сваім сваякам абразы з храма, які знаходзіцца ў Дудутках.

– У Маладзечне смачная ежа, асабліва глазураваныя сыркі, бо ў нас такіх няма. Цяпер калі я дзе-небудзь іх убачу, адразу буду асацыяваць з Беларуссю, – уключаецца ў размову гімназістка **Маргарыта Бугіхаус**. – Мне спадабаліся вырабы з саломы, але я не змагла купіць іх, бо не паспела памяняць грошы. Вядома, я была ўсхваляваная, калі збіралася сюды ехаць, але па прыездзе мае перажыванні адразу ж рассеяліся.



Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ

Кіраўнік нямецкай групы Эльке Моэкен уручае дырэктару СШ №5 Андрэю Макарэвічу спартыўны інвентар.



Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ

Гімназісты з Хайнбергскай гімназіі горада Гётынгена

## Нямецкія школьнікі былі здзіўленыя, што ў нас шмат грошай

– Калі я зайшла ў банк памяняць грошы, то на адзін еўра мне далі цэлую кіпу грошай, – распавядае Маргарыта Бугіхаус. – А цэны практычна аднолькавыя, што ў Германіі, што ў Беларусі.

А на пытанне: "Ці засталіся б вы жыць ў Беларусі?" дзеці адказвалі па-рознаму. Напрыклад, Ханна Туліус з вялікім задавальненнем пераехала б сюды жыць, калі б бацькі пераехалі разам з ёй.

– Сёлета праграма называецца "У гульні гуляем – гульні распрацоўваем", – кажа дырэктар СШ №5 **Яўген Макарэвіч**. – А некалькі гадоў таму нямецкі бок выразшыў праводзіць пастаянную акцыю – самастойна збіраць грошы і прывозіць прыборы для вымярэння цукру і тэст-палоскі. А сёлета прывезлі яшчэ і шпрыцы.

У аўторак іх перададуць у дзіцячую паліклініку. Там адбудзецца сустрэча з доктарам-эндакрынолагам **Аленай Запрудскай**.

Яшчэ адзін пункт беларуска-нямецкага супрацоўніцтва – гэта праграма абмену. Восенню адзін вучань 5-й школы паедзе на вучобу ў Хайнбергскую гімназію.

А вось настаўнік фізікі і матэматыкі **Мацїяс Шпангенбер** прыехаў ў Беларусь упершыню.

– Я заўважыў, што ў Маладзечне шмат месцаў, дзе можна займацца спортам. Гэта вельмі вялікі плюс, бо, напрыклад, немцы робіць гэта з вялікай ахвотай, – кажа спадар Мацїяс. – Цяпер я не хвалююся, калі б прыехаў сюды адзін. Калі мы толькі селі ў цягнік Мінск-Маладзечна, насупраць нас сядзелі муж і жонка, прычым ужо ва ўзросце. Яны пачулі, што мы размаўляем на нямецкай мове, дык мужчына адразу ўключыўся ў нашу размову. А ў беларускай сям'і, дзе я цяпер жыву, мы размаўляем на французскай, нямецкай, крыху на англійскай і рускай мовах. Я думаю, што калі б была зусім крытычная сітуацыя, размаўлялі б рукамі.

## Пра сістэму адукацыі і заробкі настаўнікаў

Давялося пагаварыць і пра сістэму адукацыі з кіраўніком нямецкай групы **Эльке Моэкен**, якая ўжо шосты год прыязджае ў Беларусь:

– Сістэма адукацыі ў Беларусі і Германіі вельмі розная, але я чула, што настаўнікі тут працуюць вельмі шмат, а заробкі ў іх невялікія. Таму праца настаўнікаў у Беларусі стала вельмі не папулярнай і не прэстыжнай. Я чула, што тут аб'ядноўваюцца класы, праходзяць школьныя рэформы. Але ў вашай краіне гэта вельмі дрэнна адбіваецца і на адукацыі дзяцей, і на настаўніках. На маю думку, у школе павінны працаваць добрыя спецыялісты, з вышэйшай адукацыяй. Таксама ведаю, што ў Беларусі настаўнікі сыходзяць са школ.

У Германіі прафесія настаўніка лічыцца прэстыжнай і ўваходзіць ў спіс высакааплатных прафесій. Настаўнікі зарабляюць ў сярэднім дзве ці тры тысячы еўра. Заробак залежыць ад таго, у якой школе працуе чалавек, які ў яго стаж работы і якія ён плаціць падаткі.

– У нас таксама адбылося шмат рэформаў, якія накіраваныя на тое, каб настаўнік працаваў яшчэ больш, – падкрэслівае спадарыня Эльке. – А што тычыцца нямецкіх школьнікаў, то ў іх практычна няма вольнага часу. У дзяцей выходзіць па 36 гадзін урокаў на тыдзень, гэта не ўлічваючы дамашнія заданні і дадатковыя секцыі.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

---

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# У дзіцячым цэнтры "Надзея" пачнецца юбілейны год

**ВІЛЕЙКА. Праз год, 24 верасня, беларуска-нямецкі праект "Надзея" адсвяткуе 20-годдзе з дня афіцыйнага адкрыцця дзіцячага рэабілітацыйна-аздараўленчага цэнтра "Надзея".**

Работа цэнтра скіраваная на рэабілітацыю і аздараўленне дзяцей і падлеткаў, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

24 верасня пройдзе мерапрыемства, прысвечанае старту юбілейнага года. У ім бяруць удзел людзі, якія стаялі ля самых вытокаў стварэння праекта "Надзея": **Іван Кенік**, які ў 1992 годзе быў старшынёй Дзяржаўнага камітэта БССР па праблемах наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС; **Аляксандр Рухля**, намеснік старшыні грамадскага аб'яднання "Жыццё пасля Чарнобыля"; **Андрыяс Зайферт**, старшыня дабрачыннага фонду "Лебен нах Чарнобыль" (Германія); прадстаўнікі арганізацый-заснавальнікаў з нямецкага і беларускага бакоў; дзеці, якія адпачываюць у ДРАЦ "Надзея"; госці з Германіі; супрацоўнікі цэнтра.

Плануецца старт акцыі па зборы сродкаў на развіццё "Надзеі".

Сумеснае пераадоленне біды, якую прынёс на беларускую зямлю Чарнобыль, праз удзел у праекце "Надзея" дапамагло беларусам і немцам знайсці сумесны шлях да прымірэння.

За 19 гадоў у дзіцячым цэнтры "Надзея" аздаравіліся каля 60 тысяч дзяцей і падлеткаў. Акрамя прыёму дзяцей, якія ўвесь час жывуць на тэрыторыях, забруджаных радыенуклідамі, цэнтр рэгулярна праводзіць праекты па аздараўленні дзяцей з аднолькавай медыцынскай паталогіяй. Таксама "Надзея" ладзіць сацыяльныя праекты па аздараўленні дзяцей з праблемных і шматдзетных сямей, праекты па арганізацыі сямейнага адпачынку для дзяцей-інвалідаў і іх бацькоў. Гэта стала магчымым дзякуючы падтрымцы замежных і міжнародных дабрачынных арганізацый.

Цяпер "Надзея" – гэта ўстанова санаторна-курортнага круглагадовага тыпу, якая штогод прымае на аздараўленне ад пяці тысяч дзяцей і падлеткаў.

**Цэнтр знаходзіцца ў экалагічна спрыяльным прыродным асяроддзі, у жывапісным сасновым бары на беразе Вілейскага вадасховішча, у 25 кіламетрах ад Вілейкі.**

Сёння "Надзея" вядомая ў Беларусі, Германіі, Японіі, Італіі, Вялікабрытаніі і іншых краінах не толькі ў сферы санаторна-курортнага лячэння і аздараўлення.

Ад 2001 года развіваецца філіял вытворчасці і паслуг "Надзея-плюс", які займаецца вытворчасцю экалагічна чыстай сельгаспрадукцыі для харчавання дзяцей.

У 2004 годзе дзякуючы актыўнай працы па рацыянальным выдаткоўванні паліўна-энергетычных рэсурсаў і выкарыстанні ўзнаўляльных крыніц энергіі, дзіцячы цэнтр "Надзея" атрымаў статус зоны высокай энергаэфектыўнасці.

**Настасся РОЎДА.**

**Даведка "РГ".** Праект "Надзея" – прыклад доўгатэрміновага міжнароднага супрацоўніцтва. Стварэнне і развіццё дзіцячага цэнтра стала магчымым толькі дзякуючы актыўнаму ўдзелу многіх дабрачынных ініцыятыў, дзяржаўных устаноў і асобных людзей Беларусі, Германіі, Японіі і іншых краін свету, якія ўсведамляюць сваю адказнасць за наша агульнае цяперашняе і будучае.

---

# "Надзея": дэсант за дэсантам

**ВІЛЕЙКА. У цэнтры "Надзея" з 31 жніўня па 14 верасня знаходзіўся працоўны дэсант з Браўншвайга (Германія).**

Тры валанцёры працавалі ў сталярнай майстэрні: займаліся рамонтам дзіцячай мэблі. Былі гэта пенсіянеры, старэйшаму споўнілася 79 год.

А праз тры дні пасля іх ад'езду ў цэнтр "Надзея" прыбыў яшчэ адзін працоўны дэсант з Германіі – з Мюнстэрланда.

– У складзе яго дзевяць чалавек, кіруе групай **Уве Хартмаер**, – паведаміла вядучы спецыяліст па сувязях з грамадскасцю "Надзеі" **Тацяна Майсак**. – Тры чалавекі прыехалі ўпершыню, астатнія былі неаднаразова. Будуць яны праводзіць электрамантажныя і рамонтна-будаўнічыя работы. Па просьбе партнёраў з Германіі планецца наведванне мемарыяльнага комплексу "Хатынь". Адзін дзень прысвячаецца візіту на Мядзельшчыну, дзе ў вёсцы Стахоўцы вырасла цэлая вуліца Дружная – дамы тут пабудаваныя дабрачыннай арганізацыяй "Дамы замест Чарнобыля" для людзей, якія пацярпелі ад аварыі на ЧАЭС.

Прабудуць валанцёры ў цэнтры да 29 верасня.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



**УНИВЕРСАМ ул. В. Гостинец, 136**
**ГАСТРОНОМ ул. Ф. Скорины, 28**

# алми
## СЕТЬ МАГАЗИНОВ

**С 11 сентября по 7 октября**

# Готовим дома!*

*акция действует только в универсаме

Легкий полезный завтрак, неподражаемый горячий обед, ароматный долгожданный ужин... Теперь каждая хозяйка сможет побаловать своих близких вкусной едой, так как на сезонные товары в акции "Готовим дома" объявлены самые горячие цены!

| Цена | Скидка | Товар |
|---|---|---|
| 17900 (только в универсаме; алми собственное производство) | 25% | Помидоры по-Кубански 1кг РБ. Состав: помидоры, сельдерей корень, чеснок свежий, перец черный горошек, перец чили, зелень, соль, сахар, вода. |
| 69900 (только в универсаме; алми собственное производство) | 25% | Скумбрия запеченая с овощами 1кг РБ. Состав: скумбрия, лук, морковь, кетчуп, приправа к рыбе, соль. |
| 69900 (только в универсаме; алми собственное производство) | 25% | Рулетики из куриного филе 1кг РБ. Состав: цыплята, лук, орехи грецкие, чернослив, сыр, мука, яйцо, хлеб пшеничный, масло растительное, специи, чеснок, соль. |
| 29900 (только в универсаме; алми собственное производство) | 25% | Пирожное Мечта сладкоежки 1кг РБ. Состав: мука в/с, маргарин, сахар, яйцо, разрыхлитель, арахис, изюм, молоко сгущенное вареное, глазурь кондитерская темная, кокосовая стружка. |
| 59900 | 20% | Рулет к/в Замковый Особый 1кг РБ |
| 36900 | 25% | Колбаса Вареная из мяса птицы В горошек в/с 1кг РБ |
| 21900 | 30% | Сельдь п/п кусок 750г РБ По-балтийски/Таллинская |
| 8900 (только в универсаме) | 20% | Оливки Трансформадос 300г Испания С косточкой/Без косточки |
| 6700 (только в универсаме) | 20% | Приправа универсальная Колумб 200г Польша |
| 12700 | 20% | Масло подсолнечное Камако Премиум 910мл РБ |
| 3300 | 15% | Каша гречневая б/п Ладушка 60г РБ |
| 3800 | 15% | Сок Агуша без сахара с мякотью 200г РФ Яблоко/Яблоко-абрикос. Поставщик: ОДО "Мостра-групп" |
| 6650 | 20% | Напиток газированный Трайпл Мохито 1.5л РБ |
| 9900 | 25% | Сок/Нектар Оскар 1л РБ Томат/Банан/Мультифрукт |
| 8500 | 30% | Чай черный байховый Цейлонский крупнолистовой Принцесса Нури Бест 100г РФ |
| 19900 (только в универсаме) | 30% | Кофе молотый Жокей По-восточному 250г РФ |
| 8200 | 20% | Яйцо из молочного шоколада с игрушкой Киндер сюрприз 20г РФ В ассортименте |
| 14900 (только в универсаме) | 25% | Конфеты Золотой Степ с орехами 250г РФ |
| 5200 | 25% | Вафли с начинкой Вереск 210г РФ В ассортименте |
| 9300 (только в универсаме) | 25% | Печенье Бельгийское Кокосовое с клубничным джемом 175г РФ |
| 2100 (только в универсаме) | 30% | Печенье со сгущенным молоком Кто сказал Му 36-40г Украина |
| 11000 | 20% | Конфеты Цитрус Бум 300г Украина |
| 6300 | 20% | Арахис жареный соленый Дэни 100г РБ |
| 5100 | 25% | Консервированный корм для котов Гурме Перле 85г РФ Утка/Кролик |
| 21900 (только в универсаме) | 25% | Зубная паста Сплат Профэшнл 100мл РФ Лечебные травы/Отбеливание плюс/Ультракомплекс |
| 6900 (только в универсаме) | 25% | Ватные диски Я самая 104шт РФ |
| 10900 | 25% | Бальзам для мытья посуды АОС 500г РФ Алоэ вера/Витамин Е |
| 7900 | 25% | Прокладки гигиенические Либресс Классик 9-10шт Словакия В ассортименте |
| 31900 | 20% | Стиральный порошок Найс Универсальный с Алоэ Вера 3кг Чехия |
| 7500 (только в универсаме) | 20% | Порошок чистящий с дезинфицирующими свойствами Комет 475г РФ Сосна/Лимон/Океан |
| 13500 | 20% | Концентрат для чистки туалета Майор Домус 1л Польша В ассортименте |
| 9100 | 25% | Туалетная бумага Снежная панда 4шт Украина |

Количество товара ограничено. Товар подлежит обязательной сертификации. Скидки по дисконтным картам на товары, участвующие в акции, не предоставляются. Внешний вид товаров, представленных на фотографиях, может несколько отличаться от товаров, выставленных в торговом зале. При расхождении цен, указанных в листовке и магазине, верными считать цены в магазине.

ЗАО «Юнифуд» УНП 800016624

**ЦЕНЫ ДЕЙСТВИТЕЛЬНЫ С 18 СЕНТЯБРЯ ПО 1 ОКТЯБРЯ 2013 ГОДА**


товар, отмеченный данным ценником, реализуется в гастрономе: г. Молодечно, ул. Ф. Скорины и в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136


товар, отмеченный данным ценником, реализуется только в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136

# Якім шляхам ідзе Беларусь

**11-13 кастрычніка 2013 года ў Каўнасе пройдзе трэці Міжнародны кангрэс даследчыкаў Беларусі.**

Адным з арганізатараў форуму выступае інстытут "Палітычная сфера". Гутарку з яго дырэктарам доктарам паліталагічных навук **Андрэем Казакевічам** прадстаўляем у межах "Еўрапейскага дыялогу пра мадэрнізацыю з Беларуссю".

– Асноўная ідэя форуму – раз на год збіраць даследчыкаў Беларусі ў розных галінах (грамадства, культура, палітыка, мова, гісторыя), каб прэзентаваць вынікі сваіх даследаванняў, праектаў, абмяняцца ідэямі.

**– Ці есць падставы казаць пра ўнікальны беларускі шлях развіцця? Або "беларускі шлях" – гэта міф?**

– Яго ідэя сфармуляваная нават не беларускай ідэалагічнай вертыкаллю. У канцы 1990 – напачатку 2000 гадоў незалежная інтэлектуальная супольнасць перыядычна задавалася пытаннем: чаму Беларусь гэтак моцна адрозніваецца ад Украіны, балтыйскіх краін; на той час – вельмі моцна адрознівалася ад Расіі, якая інтэгравалася ў сусветную супольнасць.

Калі мы кажам пра "асаблівы шлях", трэба разумець: гэта не проста стэрэатыпы ці міфы, якія сфармулявалі беларускія ўлады; гэта жаданне разабрацца ў тым, чаму Беларусь адрозніваецца ад іншых краін. Іншае пытанне, з якім знакам – плюсам ці мінусам? Тут кансэнсусу няма і, напэўна, ніколі не будзе.

**Думаю, нельга казаць, нібыта Беларусь ідзе "сваім шляхам": што яна вельмі моцна адрозніваецца ад усіх, што практыкуе зусім іншую сацыяльную, эканамічную, палітычную мадэль. Натуральна, большасць з гэтых элементаў можна знайсці і ў іншых краінах.**

Хаця набор і асобныя праявы, канешне, для Беларусі ўнікальныя.

Пытанне аднак не ў тым, наколькі гэта мадэль унікальная ці не, пытанне ў тым, наколькі яна адэкватная існаму моманту, наколькі адэкватна можа гарантаваць і эканамічнае развіццё, і нармальную самарэалізацыю людзей, і, у рэшце рэшт, можа гарантаваць нейкую ўстойлівасць ды стабільнасць. Прапаганда заўсёды казала, што "мы самыя стабільныя", аднак калі аналізаваць 20 год незалежнасці, то Беларусь не з'яўляецца такой ні з эканамічнага, ні з палітычнага пункту гледжання. Гэта краіна, якая мае пастаянныя праблемы.

Як тады можна казаць пра нейкую стабільнасць?

**– Раз загаварылі, то наколькі беларуская сістэма адэкватная існуючаму моманту?**

– Нельга апеляваць штампамі і схемамі, але мне падаецца – не адэкватная. Яна паказала эканамічную неэфектыўнасць; захаваць набыткі савецкага часу – гэтага замала, трэба, каб у самой сістэме былі стымулы, унутраны рухавік для развіцця, удасканалення. Пабудаваная сістэма гэтаму не спрыяе.

Фактычна мы маем сітуацыю, калі значная частка беларускай эканомікі жыве за кошт датацый, за кошт продажу нафтапрадуктаў, калію. Відавочна, такая сістэма не з'яўляецца ні ўстойлівай, ні эфектыўнай. Дазволіць сабе датаваць значную частку эканомікі, насельніцтва, – відавочны тупік.

Беларусь да гэтага часу застаецца вельмі ізаляванай, яна не можа нармальна камунікаваць з Еўропай, што яшчэ раз даказвае яе неэфектыўнасць. Каб яна была эфектыўнай, то змагла б прыдумаць адпаведныя механізмы і ўпісацца ў міжнародны кантэкст.

Дзеля нармальнай інтэграцыі ў сусветную супольнасць трэба проста выконваць правілы, якіх не так і шмат, трымаць сябе ў пэўных рамках: напрыклад, імкнуцца да таго, каб не парушаць правоў чалавека, праводзіць дэмакратычныя выбары і гэтак далей. Аднак беларуская сістэма так не працуе.

**– Ці можа Беларусь мадэрнізаваць сваю сістэму без выканання стандартнага набору "заходніх рэформаў"?**

– Мне падаецца, што не. Прынамсі, канчаткова вырашыць праблемы знешнепалітычнай ізаляцыі і эканамічнай эфектыўнасці без выкарыстання "заходняга набору", хаця б часткова, Беларусь не зможа. Эканамічная эфектыўнасць патрабуе мабільнасці сацыяльнай, мабільнасці палітычнай.

**Часта нашу краіну параўноўваюць з Сінгапурам – эканамічна эфектыўнай, але аўтарытарнай краінай. Але Сінгапур вельмі адрозніваецца ад Беларусі поўнай празрыстасцю сістэмы, Сінгапур інтэграваны ў сусветную эканоміку настолькі, што Беларусі і не снілася.**

Дзеля павышэння эканамічнай эфектыўнасці неабходна праводзіць пэўныя палітычныя змены, трэба, каб мясцовыя супольнасці ўдзельнічалі ў палітычным жыцці, трэба вынайсці механізмы, якія б дазволілі рэкрутаваць новых людзей у палітыку. Беларуская ж мадэль спрыяе з'яўленню невялікай алігархіі, і на гэтым усё.

Вырашыць праблему знешняй ізаляцыі без увядзення элементарных дэмакратычных стандартаў немагчыма. Бо ў гэтых адносінах ЗША разам з Еўропай займаюць дастаткова прынцыповую пазіцыю, і каб палепшыць з імі стасункі, пэўную частку стандартаў давядзецца прыняць.

**– Ці ёсць альтэрнатывы?**

– Беларускія ўлады бачаць альтэрнатыву ў субсідыях з боку Расіі. Гэта дазволіць пэўным чынам стабілізаваць сітуацыю, але ніяк не вырашыць ні праблему ізаляцыі (наадварот, можа толькі ўзмацніць, і Беларусь ператворыцца ў расійскі пратэктарат), ні эканамічнай эфектыўнасці. На датацыях ніколі не паўстаюць сур'ёзныя рэформы.

**– Канфлікт "Уралкалію" з "Беларуськаліем" паказвае, што не ўсе так проста з расійскай альтэрнатывай...**

– Так. За датацыі давядзецца аддаць пэўную частку ўлады і пэўную частку ўласнасці – без названых складнікаў гэтай альтэрнатывы не стане.

**– Досвед якіх краін пры рэфармаванні беларускай мадэлі нам найбольш падыходзіць?**

– Арыентавацца на канкрэтныя краіны, напэўна, няма сэнсу, бо кожная ідзе сваім шляхам, мае свой гістарычны досвед, сваю палітычную сістэму – скапіраваць гэта немагчыма.

Хутчэй, трэба арыентавацца на досвед не краін увогуле, але на досвед рэфармавання асобных галін вытворчасці, ці сектараў: вышэйшай адукацыі, сельскай гаспадаркі, мясцовых супольнасцяў, развіцця медыярынку. Гэта тыя сферы, у якіх прыклады паўночных краін могуць быць цікавымі для Беларусі.

Але ў любым выпадку да пераймання чужога досведу трэба падыходзіць творча.

**Сямён КУТКАВЕЦ,**
**"Свободные новости плюс".**

КНІЖНАЯ КРАІНА

## Бібліятэка даравала даўгі

**МАЛАДЗЕЧНА. Дзень бібліятэк адзначылі ў пятніцу, 13 верасня, у маладзечанскай цэнтральнай бібліятэцы імя Максіма Багдановіча.**

– У краіне Дзень бібліятэк адзначалі ў нядзелю, 15 верасня, – распавядае дырэктар цэнтральнай раённай бібліятэкі **Наталля Івашынка**. – Мы вырашылі адсвяткаваць раней. Віншаваў бібліятэкараў з прафесійным святам вакальны гурт "Талака".

Летась бібліятэка ў гэты дзень падарыла свята і сваім чытачам: прапанавала бясплатнае карыстанне камп'ютарам, даравалі пратэрмінаванасці.

Але такія падарункі дасталіся толькі тым, хто прыйшоў менавіта ў той дзень.

– Сёлета таксама 15 верасня ладзіліся акцыі, – заўважае спадарыня Наталля. – Гэта "Дзень даравання", "Дзень бясплатнага чытацкага білета", "Падары любімую кнігу бібліятэцы".

**Святлана АЛЬФЕР.**

ПУП «ЭНВА» ГА «БелТІЗ» патрабуюцца:
- начальнік аддзела продажаў ТНП;
- інжынер-канструктар;
- майстар-механік;
- слесар-рамонтнік;
- слесар-сантэхнік;
- слесар-інструментальшчык;
- газаэлектразваршчык;
- фрэзероўшчык;
- токар;
- грузчык;
- прыбіральшчыца вытворчых і службовых памяшканняў.

Працаўладкуем інвалідаў (наяўнасць індывідуальнай праграмы рэабілітацыі абавязковая).
Тэл. 75-38-56 УНП 600066646

ДУП «ПМК-185» г.Вілейка на постоянную работу требуются:
- каменщики,
- плотники,
- плотники-бетонщики.

Заработная плата сдельно-премиальная. Высокая.
Тел. (8-01771) 3-78-12, (8-033) 630-03-91.
УНП 600102196

ААТ "Палачаны" Маладзечанскага р-на патрабуюцца
ТРАКТАРЫСТЫ-МАШЫНІСТЫ, ЖЫВЁЛАВОДЫ (2 сям'і) (прадастаўляецца добраўпарадкаванае жыллё),
ВАДЗІЦЕЛІ (дастаўка на працу і з працы транспартам гаспадаркі).
Тэл. 72-21-70, 72-21-68
УНП 600027816

ЧТПУП «Вэлстон» в деревообрабатывающий цех (производство дверных полотен) на постоянную работу требуется
отделочник изделий из древесины (помощник маляра).
Тел. (8-044) 470-60-54
УНП 590780695

Строительной организации срочно требуются
каменщики
маляр-штукатур
плиточник-облицовщик
Оплата труда высокая
Тел. (8-029) 159-36-95, (8-033) 633-31-01
ООО «МолСтройГрупп»
УНП 691296160

Организации требуется
региональный представитель
с опытом работы в сфере продаж и личным автомобилем.
Оплата высокая.
Т. 311-25-14 Велком
ООО «Двери ТУТ» УНП 691507417

На работу приглашаются
МОНТАЖНИКИ
межкомнатных дверей
с личным автомобилем. Высокая оплата.
Тел. (8-029) 123-43-07
ООО «Двери ТУТ» УНП 691507417

ДОРОЖНО-СТРОИТЕЛЬНОЕ УПРАВЛЕНИЕ № 13
ОАО "ДСТ № 5"

предлагает следующий спектр услуг по выполнению геодезических работ и разработке проектно-сметной документации:

1. Разбивочные работы (вынос проекта в натуру).
2. Исполнительная съемка.
3. Топографическая съемка.
4. Ландшафтная съемка.
5. Определение границ и площади участка.
6. Определение объемов земляных работ и потребности в материалах.
7. Разработка проектной документации.

УНП 600216344

Возможна оплата как по наличному, так и по безналичному расчету.

Современное оборудование, программное обеспечение позволяет нам выполнять свою работу быстро, а самое главное качественно!

Мы готовы решить любую Вашу проблему за ваши деньги!

(8-01771) 5-41-67 (дир.), 5-42-61 (гл. инж.), 5-42-81 (ППО)

ДОРОЖНО-СТРОИТЕЛЬНОЕ УПРАВЛЕНИЕ № 13
ОАО "ДСТ № 5"

выполняет следующие виды работ:

1. Земляные работы.
2. Устройство покрытий, оснований, подстилающих слоев.
3. Устройство искусственных сооружений.
4. Благоустройство территории.
5. Реализуем песок, песчано-гравийную смесь, асфальтобетон.
6. Предлагаем в аренду дорожно-строительную технику.

УНП 600216344

Возможна оплата как по наличному, так и по безналичному расчету.

Современная техника и квалифицированный персонал позволяет нам выполнять свою работу быстро, а самое главное качественно!

Основные принципы нашей работы это: ответственность, быстрота и качественное оказание услуг!

(8-01771) 5-41-67 (дир.), 5-42-61 (гл. инж.), 5-42-81 (ППО)

УСПАМІНЫ ЖЫХАРКІ ІЛЬЯНШЧЫНЫ

# Па-царску жаніліся, жылі па-сялянску

*Заканчэнне. Пачатак у №№ 35, 36, 37.*

**Жыццё пражыць – не поле перайсці. Гэта тычыцца кожнага. Каля васьмідзесяці, як гэта многа і як гэта коратка. Мільганула нешта і знікла ў нябыт. Толькі ўспаміны.**

Лёгка і добра пасля здачы экзамену. Нібы з плячэй зваліўся цяжкі груз. Размахваючы рукамі, праз якую гадзіну-другую і дома.

## Жыццё з прыгаршчаў ячменнай мукі

За мае поспехі вельмі хвалявалася сям'я Клапоцкіх. Вера Аляксееўна пасля кожнага экзамену цікавілася вынікам. Яны прыхільна адносіліся да мяне з прычыны таго, што вельмі блізка сутыкнуліся з маім гаротным становішчам.

Клапоцкія некалькі месяцаў кватаравалі ў Чарапкоў побач са мной. Яны незнарок былі сведкамі, як я прыходзіла з дому і распакоўвала свае пажыткі, даставала з торбы некалькі прыгаршчаў ячменнай мукі, змолатай у жорнах для заціркі, палову бохана хлеба сваёй выпечкі, два літры малака, шклянку масла і некалькі бульбін. Усяго гэтага хапала да наступнага выхаднога дня.

Выпала так, што мы адначасова сышлі з кватэры. Клапоцкія атрымалі палову дома ў асабістае карыстанне, а я вярнулася дадому. Вера Аляксееўна і Сямён Пятровіч паралі мне пайсці па іх шляху і стаць настаўніцай. Сямён Пятровіч быў загадчыкам РАНА і даў мне накіраванне ў маю дамашнюю Хаценчыцкую школу настаўніцай пачатковых класаў.

## Шлях у настаўнікі

З сямікласнай адукацыяй мне прыйшлося ўскласці на свае плечы непасільную ношу. Нічога не атрымоўвалася Дырэктар школы Пётр Міхайлавіч Тамковіч меў сярэднюю педагагічную адукацыю і быў незадаволены маёй працай. У калектыве ўсе былі без доследу, дапамогі чакаць ад калег было марным спадзяваннем. Са слязамі на вачах я звярнулася да сваіх выратавальнікаў. Сямён Пятровіч прыняў рашэнне перавесці мяне бліжэй да сябе, у Ілью, на пасаду піянерважатай і адначасова падрыхтавацца да паступлення ў педвучылішча, што і зрабіла.

Напярэдадні новага навучальнага 1947-1948 года быў падрыхтаваны загад аб маім пераводзе, як раптоўна памёр Сямён Пятровіч. Вера Аляксееўна стала ўдавой, і маленькая Вілора, якая з'явілася на свет некалькі месяцаў таму назад, засталася без бацькі. Вера Аляксееўна пры ўсёй сваёй неўладкаванасці пакідае прынятае мужам рашэнне ў сіле. Я пасяляюся ў яе і дапамагаю даглядаць за Вілорай.

З абавязкамі піянерважатай мяне знаёміць Іван Канстанцінавіч Зайцаў, паколькі да мяне ён займаўся гэтай справай.

Я ўжо завочніца і маю працу. Самымі блізкімі сябрамі сталі работнікі райкама камсамола – Валя Дзянішчык, Ларыса Савіч, былая мая аднакласніца, Толя Дзятліковіч, наш фізрук Пеця Галецкі і Тася Мілашэвіч.

Яны часта збіраліся вечарам усе разам і мяне не пакідалі. Першы раз у жыцці я прысутнічала на святочнай вячэры ў гонар 1 Мая. Да пералічаных вышэй асоб былі запрошаны яшчэ два "кавалеры": Федзя Пінчук і Саша Уладыка.

Ад таго вечара наша кампанія неяк больш зблізілася, вельмі цёплымі сталі адносіны, але, як і ўсё ў жыцці недаўгавечнае, так і наша сяброўства аказалася кароткім.

Федзя і Саша як нечакана з'явіліся ў нашым коле, так нечакана і зніклі. Ларыса Савіч, Толя Дзятліковіч, я і Пеця Галецкі пасля работы збіраліся разам, выходзілі за ваколіцу Ільі, хлопцы купаліся, а мы сядзелі на беразе рэчкі і абмяркоўвалі свае дзявочыя ўражанні. Для мяне гэта азначала пераходам ад дзяцінства ў юнацтва. Хаця па гадах усё перабльталася. Страчанае ў час вайны дзяцінства кампенсавалася юнацтвам, а цяпер надышоў час расставіць жыццёвыя перыяды на свае месцы.

Незадоўга планы мяняюцца. Пеця прапануе спатканні тут, па месцы пражывання, каля нашых варот. Назначаецца час, я выходжу, а Пеця з роварам сустракае. Мне прыемна ўвага чалавека больш сталага ўзросту. Я ўладкоўвалася на раме, і мы насустрач ветру ехалі да мосціка па малявіцкай дарозе. Так рабілі некалькі рэйсаў, потым аблюбоўвалі месца на беразе рэчкі, крыху сядзелі, услухоўваліся ў шэпат прыбярэжнага наваколля.

Час ішоў хутка, я не дазваляла сабе затрымлівацца позна, каб не прынесці турбот сваёй гаспадыні. Блізіўся час ад'езду на завочную сесію, гэта тычылася нас абаіх. Пеця таксама быў студэнт-завочнік.




Так ільянская школа выглядае цяпер.

На гэты раз мы амаль не каталіся. З'ехалі да рэчкі, знайшлі месца, дзе вада падступала бліжэй да берага, уладкаваліся на травяной лавачцы, апусціўшы босыя ногі ў ваду. Раптам ці то наўмысна, ці то знарок Пеця паваліў мяне на сырую зямлю. Я ўсхапілася і кінулася наўцёкі па лузе, потым па ўзараным полі напрастка да сваёй кватэры. Мой выгляд усхваляваў маю гаспадыню. Больш за ўсё мяне непакоіла тое, што адзіны абутак застаўся на беразе рэчкі.

– Нічога, сказала Вера Аляксееўна, – заўтра раніцай знойдзем.

Раніцай мой абутак стаяў каля парога нашай хаты.

На сесіі ўсё ішло нармальна, паспяхова адолелі экзамены. Да Ільі яшчэ быў вольны час, які я правяла дома ў мамы.

Закончыўся водпуск. Трэба прысутнічаць на настаўніцкай канферэнцыі і пачынаць навучальны год. З радасцю сустракае мяне гаспадыня Вера Аляксееўна, цікавіцца поспехамі ў вучобе, задаволеная. Гэта мой другі дом, іншага я не ўяўляю.

Прайшоў тыдзень ці крыху больш. У суботу, як па графіку, абавязковае наведванне мамы: пешшу туды, а ў нядзелю назад. Вярнуўшыся ў кватэру, я заўважыла невялікую перастаноўку. Над ложкам гаспадыні са сцяны знік партрэт Сямёна Пятровіча. Нешта перасунутае, лішняе прыбранае з пакоя.

За вячэрай Вера Аляксееўна паведаміла, што яна мне знайшла іншае жыллё ў сваіх сяброў. Недалёка, праз адзін дом, з нагоды таго, што да яе прыходзіць жыць Пеця Галецкі.

Павячэраўшы, мы адразу пайшлі да Ханякоў. Гэта была цудоўная сям'я, гаспадыню звалі Ніна, гаспадара Лена майго ўзросту. Лена працавала настаўніцай ў Капусцінскай пачатковай школе першы год пасля Лепельскага педвучылішча. Яна прывезла з сабой шмат метадычнай літаратуры. Для мяне гэта было каштоўнай знаходкай. Разам мы чыталі і абмяркоўвалі прачытанае.

## Бывай, мая Ілья

У школе мне даручылі адказнае заданне – падрыхтаваць прывітальныя словы ад піянерскай дружыны для раённай партканферэнцыі. Гэты матэрыял трэба было выбраць з розных твораў, куплеты ў перамежку з песнямі ў выглядзе літмантажу. Куплеты, як і песні, павінны былі быць патрыятычна насычанымі. Пачынаць трэба было з выканання "Інтэрнацыянала". У школе спецыяліста па музыцы і спевах у той час не было. "Інтэрнацыянал" піянеры выканалі цудоўна дзякуючы вялікаму намаганню Ільі Савіча, ён не шкадаваў ні сіл, ні часу, дапамагаў мне і школе не ўпасці тварам у гразь. Складаючы прывітанне, я ўспомніла свайго бацьку, які пакутуе невядома дзе і за што і ўставіла між іншых наступны куплет:

*Во глубине сибирских руд*
*Храните гордое терпенье.*
*Не пропадет ваш скорбный труд*
*И дум высокое стремленье.*

Гэты куплет быў выкраслены работнікам райкама партыі пры праверцы перад тым, як раздаць піянерам для вывучэння. Выканаўцаў пахвалілі. Дырэктар школы Ляцягін быў задаволены. Ён сабраў школьны сход і вынес падзяку піянерскай дружыне і піянерважатай у тым ліку.

1949 год. Пераднавагодні вечар. Ёлка. Пераважна актыўнічаюць вучні пачатковых класаў з Ларысай Дзмітрыеўнай. Наперадзе зімовая сесія. Зноў Мінск, зноў лекцыі, экзамены. Вяртаюся задаволеная. Вучоба ідзе паспяхова. Стары Новы год адзначаюць нават партыйныя работнікі, праўда, у коле блізкіх сяброў ціха і сціпла. У гаспадароў у гасцях сям'я цяперашняга загадчыка РАНА Канстанцінава са сваёй жонкай Ядвігай.

Канстанцінаў цікавіцца маімі жыццёвымі планамі і прапануе памянуць піянерскую працу на настаўніцкую. Калектыўна прымаецца рашэнне. Ханякі, Канстанцінавы і Лена Ханяк вырашаюць мой лёс.

Я даю згоду пакінуць Ілью і атрымаць працу ў пачатковых класах. Канстанцінаў дае магчымасць выбару, ён называе некалькі школ раёна. Я выбіраю пачатковую школу ў Старынках.

Бывай, любая майму сэрцу Ілья! Ты як стартавая пляцоўка, адкуль пачынаецца шлях у самастойнае жыццё. А дарагія маёй памяці сем'і: Гаўрылікі, Чарапкі, Клапоцкія, Ханякі, Канстанцінавы нібы факел асвятлялі мне чыстую і доўгую дарогу.

**Леаніла МІЦЬКО (ПАПКОВІЧ),**
**вёска Дварэц, Хаценчыцкі сельскі Савет Вілейскага раёна.**

КАЛЯНДАР



**20 верасня.** 110 гадоў з дня нараджэння Наталлі Арсенневай (1903 – 1997), беларускай паэтэсы, перакладчыцы, драматурга, лібрэтыста.

***

**70 гадоў** з дня нараджэння Ніны Мацяш (1943 – 2008), беларускай паэтэсы, перакладчыцы, драматурга, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

***

**21 верасня.** 95 гадоў з дня нараджэння Фёдара Янкоўскага (1918 – 1989), мовазнаўца і пісьменніка, заслужанага дзеяча навукі Беларусі.

***

**90 гадоў** з дня нараджэння Мікалая Барысевіча (1923), фізіка, акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Расійскай акадэміі навук, шэрагу замежных акадэмій навук, заслужанага дзеяча навукі Беларусі.

***

**22 верасня.** 110 гадоў з дня нараджэння Хвядоса Шынклера (1903 – 1942), беларускага пісьменніка. Нарадзіўся ў Заслаўі Мінскага раёна. Вучыўся ў Мінскім рэальным вучылішчы, ваенным вучылішчы ў г.Кыштым Чэлябінскай вобласці. Уваходзіў у літаратурнае аб'яднанне "Маладняк". Першае апавяданне "Пас зачапіў" апублікаваў у 1928 годзе. Аўтар аповесці для дзяцей "Петрык-завадатар". Пісаў рэцэнзіі, артыкулы, нарысы. У Айчынную вайну загінуў на фронце пад Сталінградам.

***

**23 верасня.** 95 гадоў з дня нараджэння Аркадзя Маўзона (сапр. Маўшэнзон Арон Іосіфавіч) (1918 – 1977), беларускага драматурга.

***

**25 верасня.** 100 гадоў з дня нараджэння Сяргея Грахоўскага (1913 – 2002), паэта, празаіка, перакладчыка, заслужанага работніка культуры Беларусі.

***

**26 верасня.** 110 гадоў з дня нараджэння Дзмітрыя Арлова (1903 – 1969), акцёра, рэжысёра, педагога, народнага артыста Беларусі.

Падрыхтавала **Марыя БЕРАСНЕВА.**

ПРАФЕСІІ

# “Ого! Першы раз еду з жанчынай-таксісткай”

**МАЛАДЗЕЧНА. “Спадзяюся, што не апошні”, – адказвае сваім пасажырам таксістка Вольга Рудэнка.**



Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ.

Вольга Рудэнка з Маладзечна ўжо год як працуе таксісткай, хаця лічыць, што гэта прафесія – нежаночая.

Ёсць прафесіі, якія лічацца мужчынскімі. Таксіст – адна з іх. Праца нервовая, часам нават небяспечная.

**– Як вы сталі таксісткай?**

– Некаторы час была прадпрымальніцай. Па прафесіі я дэфектолаг. Папрацавала год у школе і зразумела – гэта не маё, ды і грошай там не заробіш.

Калі пачаўся крызіс, даляр падскочыў з трох да васьмі тысяч, я пачала задумвацца аб іншай працы. Гартала газету і ўбачыла аб'яву: “Патрабуюцца таксісты”. За рулём я амаль шаснаццаць гадоў. Патэлефанавала і спыталася: “А жанчын бераце?” І вось ужо роўна год, як я працую ў службе таксі. Люблю сваю машыну, мне ў ёй камфортна. Я задаволеная працай.

### “Важу з сабой дыск з дзіцячымі песнямі”

– У мяне своеасаблівы падыход да кожнага кліента, – кажа Вольга. – Калі я бачу, што ў машыну садзіцца маці з дзіцем, мне не цяжка ўключыць дзіцячыя песні, напрыклад, пра маленькае маманцяня ці якую іншую. Дзеці атрымліваюць задавальненне, а некаторыя нават засынаюць.

### Пашанцавала з калектывам

**– Страшна было выходзіць на працу?**

– Спачатку мне было вельмі боязна, перажывала, што не знайду патрэбны адрас, – дзеліцца сваімі ўражаннямі Вольга. – Я хвалявался, каб не было мне сорамна перад калегамі. Што пра мяне будуць думаць пасажыры, мне было ўсё роўна.

У мяне цудоўны калектыў. Калегі з першых дзён вадзілі мяне за руку як сляпое кацяня. Як толькі я ехала на выклік, Таня, якая ўжо два гады працуе ў таксі, у рацыю адразу падказвала дарогу. Дзякуючы ім не трэба ні карта, ні навігатар. Дыспетчары ўгаворвалі нецярплівых пасажыраў пачакаць, пакуль да іх даеду. Так паступова я пачала ўваходзіць ў “таксоўнае” асяроддзе.

З калектывам адзначаем усе святы. Гуляем разам ў пейнтбол, праводзім конкурсы. Люда, мая калега, прыгожа спявае і іграе на баяне.

**– Што вы робіце, калі ў дарозе ламаецца машына?**

– Таксама звяртаюся да калег. Як толькі нейкая паломка, яны дапамогуць ці справай, ці парадай. Калі ў непагадзь засяду ў якой-небудзь яміне – адразу выратуюць. Хачу сказаць, з калектывам мне пашанцавала.

**– Прафесія таксіста небяспечная. Рознага можна чакаць ад хуліганаў, асабліва ўначы...**

– Цьфу, цьфу, цьфу, страшнага са мной не здаралася. У мяне пераважна начныя змены. Вядома, што ноччу рызыка павышаецца, але пасажыры трапляюцца добрыя. Некаторыя жанчыны і пра жыццё хочуць пагаварыць, а вось з мужчынамі складаней, асабліва з нецвярозымі. Калі патрапіцца грубіян, то я з ім размаўляю вельмі ветліва, тактоўна. Гэта абязбройвае любога агрэсіўна настроенага чалавека.

### Жанчыне ў такой службе няма чаго рабіць

**– Вольга, вы можаце параіць іншым жанчынам такую прафесію?**

– Скажу так: жанчыне ў таксі няма чаго рабіць! Па-першае, трэба мець добрае фізічнае здароўе. Па-другое, жанчына павінна забыць пра васьмігадзінны графік працы і яшчэ пра шмат што.

У таксі даводзіцца працаваць па 12 гадзін. У жанчын, акрамя асноўнай працы, шмат іншых абавязкаў: і мыццё, і прасаванне, і прыгатаванне ежы. За яе гэта ніхто іншы не зробіць. У таксі жанчыны ідуць працаваць свядома. На маю думку, мы працуем не па волі выпадку, а па ўласным выбары.

Я шкадую дыспетчараў таксі. Бедныя дзяўчаты. Яны па дванаццаць гадзін у суткі не расстаюцца з тэлефонам. Трэба прыняць выклік, потым паведаміць пра гэта таксісту, пасля пазваніць кліенту і сказаць, каб ён выходзіў. А калі кліент доўга не выходзіць, трэба зноў з ім звязацца. Шчыра кажучы, я б не змагла працаваць дыспетчарам.

### “Жанчына і тэхніка несумяшчальныя”

**– А як вы лічыце, хто лепш кіруе машынай: мужчыны ці жанчыны?**

– Вядома, мужчыны. Машына – гэта тэхніка. А мужчынам прыродай дадзена разбірацца ў ёй лепш, чым жанчынам.

Я не імкнуся канкурыраваць з мужчынамі і што-небудзь даказваць. Проста працую побач з імі і пад іх апекай.

Аднак мой знаёмы дальнабойшчык, калі прыехаў у адну са скандынаўскіх краін, расказаў такі выпадак. Прыязджае ён туды, а жанчына-дальнабойшчыца смяецца: “А чаму ты ўлез у жаночую прафесію?”

У гэтай краіне дальнабойшчыкі пераважна жанчыны, таму што прафесіі, у якіх няма кар'ернага росту, лічацца жаночымі.

**– Якія фразы чуеце ад сваіх кліентаў часцей?**

– Ой, цэлы набор. Хто пытаецца: “А вам не страшна?” У такім выпадку я жартую і адказваю: “Толькі дурні баяцца!” Некаторыя здзіўляюцца і кажуць: “О, жанчына за рулём!” А некаторыя дзякуюць за паездку. Могуць зрабіць камплімент: “Якая вы прыгожая”.

А самае частае пытанне: “Колькі вы зарабляеце?”

У некаторых выпадках дыспетчар адразу кажа, што за імі заедзе жанчына-таксістка. Таму пасажыр загадзя будзе падрыхтаваны да паездкі з жанчынай-кіроўцай.

**– Што больш раздражняе ў кліентах?**

– Гэта калі мне ўжо неабходна ехаць на іншы выклік, а кліент хоча расказаць мне пра ўсё сваё жыццё.

### “Вы нямая, ці што?”

**– Якія цікавыя выпадкі былі падчас працы?**

– Падыходзіць да мяне мужчына і пытаецца: “А давязіце мяне за 25 тысяч, тут недалёка”. Я махаю рукамі і ківаю галавой, што давязу. Ён стаіць каля машыны, глядзіць на мяне і не садзіцца. Я не разумею: думаю, можа, ён хоча, каб я яшчэ і дзверы яму адчыніла? Зноў жэстам паказваю: “Паехалі!” Мужчына паглядзеў на мяне і спытаў: “Вы нямая, ці што?” А я яму ва ўвесь голас: “Так-так!”

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

ЭКАЛОГІЯ

# Культурныя ландшафты: як іх выкарыстоўваць для турызму

**МЯДЗЕЛ. У Нацыянальным парку “Нарачанскі” 11 і 12 верасня адбыўся майстар-клас “Эфектыўнае выкарыстанне культурнага ландшафту для павелічэння турыстычнага патэнцыялу мясцовасці ва ўмовах асабліва ахоўнай прыроднай тэрыторыі”.**

Прайшоў ён у рамках міжнароднага праекта “Культурныя ландшафты: традыцыі для развіцця”, які фінансуецца Еўрапейскім саюзам.

“Нарачанскі” ўдзельнічае ў гэтым праекце ў якасці мадэльнай тэрыторыі разам з расійскімі нацыянальнымі паркамі “Угра” і “Кеназерскі”.

– Асноўная мэта мерапрыемства – практычная частка ўдзелу Нацыянальнага парку ў міжнародным праекце, – расказаў намеснік генеральнага дырэктара НП “Нарачанскі” па навуковай рабоце **Валерый Люштык**. – На майстар-клас былі запрошаныя прадстаўнікі мясцовай суполкі, у першую чаргу – гаспадары аграсядзіб.

**– З якой мэтай іх запрашалі?**

– Каб праінфармаваць удзельнікаў аб разнастайнасці і вялікай колькасці аб'ектаў, якія маюць дачыненне да культурнага ландшафту рэгіёна. А таксама параіць, пашукаць нейкія шляхі ўзаемадзеяння, якія б спрыялі таму, каб у рэшце рэшт кожны мог больш эфектыўна выкарыстаць магчымасці гісторыка-культурных і прыродных каштоўнасцяў у мэтах экалагічнага турызму.

Супрацоўнікі Нацыянальнага парку патлумачылі сэнс новага для многіх паняцця “культурны ландшафт”. Існуе некалькі трактовак яго. Напрыклад, у дакументах ЮНЕСКА культурны ландшафт разумеецца як вынік сумеснай творчасці чалавека і прыроды. Ён ілюструе працэсы эвалюцыі грамадства пад уплывам умоў прыроднага асяроддзя і сацыяльных, эканамічных і культурных працэсаў.

Выдзяляюць шмат тыпаў культурных ландшафтаў. Ёсць два асноўных раздзелы: матэрыяльныя і нематэрыяльныя. Да матэрыяльных адносяцца археолага-геалагічныя аб'екты; сядзібна-паркавыя комплексы; храмы; вясковыя і гарадскія індывідуальныя ландшафты ў выглядзе тыповых забудоў; ваенна-гістарычныя ландшафты; аб'екты рэканструкцыі традыцыйнага быту, экалагічныя сцяжынкі. Да нематэрыяльных – паданні, абрады, народныя святы.

Апроч расказу пра культурныя ландшафты, удзельнікі майстар-класа маглі пабачыць іх падчас экскурсійнага маршруту. А суправаджалі ў паездках не толькі супрацоўнікі Нацпарку, але і мясцовыя краязнаўцы – **Міхаіл Чарняўскі** і **Іван Драўніцкі**. Яны дзяліліся паданнямі, успамінамі – а Іван Пятровіч нават фрагменты старадаўняга народнага абраду паказаў.

Два дні паездкі праводзіліся па розных маршрутах. У другі дзень удзельнікі наведалі не толькі цікавыя мясціны Мядзельшчыны (прыродны комплекс “Блакітныя азёры”, Альшэва, Камарова), але і суседняй Пастаўшчыны. Пабывалі ў Камаях, дзе завіталі ў касцёл, паслухалі арганную музыку, у Лынтупах паглядзелі, як інвестар рэканструюе сядзібу Бішэўскіх.

Адбыўся і абмен меркаваннямі. І гаспадары аграсядзіб свае прапановы ўнёслі: скажам, выказвалі думку, каб было больш масавых культурных мерапрыемстваў.

Пацікавіўся ўражаннямі ад мерапрыемства ў **Наталлі Смятанінай** з вёскі Малая Сырмеж.

– Майстар-клас быў выключна карысным: сваёй пазнавальнасцю, насычанасцю, інфарматыўнасцю. Для мяне тэма культурных ландшафтаў – часткова новы матэрыял, але яна адпавядае сённяшняму дню. Цікавая была і экскурсія: хаця, напрыклад, у Камаях была ў шосты раз, усё роўна даведалася шмат новага.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Расказвае Іван Драўніцкі (злева).

ШАХМАТЫ

# Шахматы – тая ж самая барацьба, але розуму

**МАЛАДЗЕЧНА. Чэмпіянат па шахматах праходзіў у Маладзечне 12-14 верасня. У ім удзельнічалі чатыры каманды – з Крупак, Пухавічаў, Капыля і Маладзечна.**

– Звычайна хлопцы лепш за дзяўчат гуляюць у шахматы, бо ў іх такі склад розуму, – распавядае галоўны суддзя абласнога спаборніцтва **Яўген Чаеўскі**. – Але ў гэтым чэмпіянаце больш ачкоў набралі дзяўчаты – **Аліса Качаткова** і **Вольга Трус**. Дзякуючы ім каманда з Маладзечна выйграла.

Па словах суддзі, цяпер сітуацыя з шахматамі ў Маладзечне крытычная: у горадзе няма спецыяльнай школы. Толькі ў трох маладзечанскіх школах засталіся трэнеры, якія вучаць дзяцей гуляць у шахматы. Гэта ў гімназіі-каледжы мастацтваў, чацвертай і дзясятай школах. А каб былі добрыя вынікі, дзяцей трэба трэніраваць, з імі трэба займацца. У секцыю па шахматах лепш аддаваць дзяцей з гадоў пяці ці шасці.

– Шахматы таксама спорт, – дадае спадар Яўген. – Гэта барацьба, як і любым відзе спорту. Невядома, каму пасля дзвюх гадзін спаборніцтваў будзе лягчэй, баксёру ці шахматысту.

Для дзяцей гульня ў шахматы вельмі карысная, дзякуючы ім развіваюцца памяць, інтуіцыя, кемлівасць.

Вольга ЮРКЕВІЧ.



Фота з асабістага архіва Аліcы Качатковай.

Аліса Качаткова не першы раз перамагае ў шахматных спаборніцтвах.

ФУТБОЛ

## "Маладзечна-ДЮСШ-4" згуляла ўнічыю

**МАЛАДЗЕЧНА. Матч 19-га тура чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе каманда "Маладзечна-ДЮСШ-4" правяла 15 верасня.**

Маладзечанцы дома гулялі з "Нёман-Агра" (Стаўбцоўскі раён). Матч закончыўся ўнічыю 1:1. Гол у маладзечанцаў забіў **Майсяёнак**, паведамляе сайт Мінскай абласной федэрацыі футбола.

"Забудова-2007" з Чысці ў гасцях прайграла ФК "Клецк" з лікам 1:4.

Пасля гульняў гэтага тура "Маладзечна-ДЮСШ-4" займае трэцяе месца, "Забудова-2007" – адзінаццатае.

Аддзел інфармацыі.

## "Вілія" падзяліла ачкі з лідарам

**ВІЛЕЙКА. У матчы 19-га тура чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе каманда "Вілія" сустракалася з лідарам першынства – ФК "Узда".**

Гульня адбылася ў суботу, 14 верасня. Віляйчанам удалося ўзяць ачко ў матчы з моцным сапернікам: гульня завяршылася ўнічыю 1:1.

"Вілія" ўзнялася на перадапошняе месца, а "Уздзе" з-за асечкі ў Вілейцы давялося пакінуць першае месца.

Аддзел інфармацыі.

ШКОЛЬНЫ СПОРТ

# Свір перамагла ў піянерболе

**МЯДЗЕЛ. У райцэнтры 14 верасня прайшлі раённыя спаборніцтвы па піянерболе. Удзельнічалі ў іх 11 камандаў. У складзе кожнай былі як хлопчыкі, так і дзяўчынкі ўзростам 10-12 гадоў.**

Гульні праходзілі ў дзвюх групах на пляцоўках фізкультурна-аздараўленчага комплексу і Мядзельскай СШ №1.

У матчы за першае месца сустрэліся пераможцы ў групах – каманды Свірскай і Нарацкай №1 сярэдніх школ. Перамаглі ў гэтай сустрэчы і адпаведна ў спаборніцтвах свірскія школьнікі.

У матчы за трэцяе месца гулялі вучні Нарацкай СШ №2 і гімназіі-інтэрната. Мацнейшымі былі гімназісты.

Аддзел інфармацыі.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Момант спаборніцтваў.

## Выйграй білет на матч "Смаргоні"!



Фота ФК "Смаргонь".

Момант гульні "Смаргоні" з "Гранітам".

**СМАРГОНЬ. Усяго крышачку не хапіла адной з удзельніц конкурсу, каб угадаць лік гульні "Смаргонь" – "Віцебск".**

Ларыса смела паставіла на тое, што смаргонцы абыграюць каманду, якая знаходзіцца на некалькі прыступак вышэй у турнірнай табліцы, з лікам 3:0. А гульцы "Смаргоні" і гэты аптымістычны прагноз перавыканалі, забіўшы на гол болей.

У наступным туры сумеснага конкурсу "Рэгіянальнай газеты" і афіцыйнага сайта ФК "Смаргонь" будзем спрабаваць угадаць лік матча "Хімік" – "Смаргонь". Пройдзе ён 21 верасня ў Светлагорску. "Хімік" займае ў турнірнай табліцы дванаццатае месца, "Смаргонь" – сёмае.

Ваш адказ можаце даслаць да 12 гадзін 21 верасня (субота) праз SMS на нумар 8(044) 566-26-99 ці пакінуць у каментарах пад адпаведнай інфармацыяй на сайце rh.by або ў групе ФК "Смаргонь" "Вконтакте", на афіцыйнай старонцы клуба ў Facebook.

Укажыце ваша імя і нумар мабільнага ці адрас электроннай пошты – з тым, каб у выпадку выйгрышу вас можна было адшукаць.

Кожны, хто дашле правільны адказ, будзе ўзнагароджаны білетам на наступную дамашнюю гульню "Смаргоні".

Першы, хто дашле SMS з адказам, атрымае сувенір ад "Рэгіянальнай газеты". Па выніках мінулага тура гэты прыз адправіўся спадарыні Ларысе.

Аддзел інфармацыі.

ФУТБОЛ

## "Смаргонь": паражэнне і перамога

**СМАРГОНЬ. У сераду, 11 верасня, у 19-м туры чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе ФК "Смаргонь" на выездзе гуляла з клубам "Смалявічы СТІ".**

Матч завяршыўся з лікам 3:1 на карысць клуба са Смалявічаў. Гаспадары вялі з лікам 2:0 ужо на 18-хвіліне матча. На 56-й хвіліне **Сяргей Крот** адбіў адзін мяч, аднак футбалісты са Смалявічаў здолелі яшчэ раз забіць гол у вароты смаргонцаў на 76-й хвіліне.

А 15 верасня "Смаргонь" дома прымала "Віцебск". Смаргонцы атрымалі ўпэўненую перамогу з лікам 4:0. Хет-трыкам адзначыўся Сяргей Крот (ён забіваў на 28-й, 47-й і 65-й хвілінах), а на 80-й **Якаў Казак** устанавіў канчатковы лік.

Вось як пракаментаваў гульню Сяргей Крот у інтэрв'ю сайту fc-smorgon.by:

– Хай ацэньваюць спецыялісты. Магу толькі сказаць, што гуляла ўся каманда, а я – завяршальнік нападзеннаў: хлопцы даваяюць мне, даюць перадачы, а я стараюся не падводзіць іх.

– Ты з трынаццацю галамі аднаасобна ўзначальваеш спіс лепшых снайпераў першай лігі, сёння аформіў хет-трык. У чым сакрэт поспеху?

– Сакрэт – у калектыве: у нас дзейнічае прынцып "адзін за аднаго": усе адзін аднаго падбадзёрваюць і падтрымліваюць.

## Стопрацэнты вынік "Першага Беларускага"

**ВІЛЕЙКА. У гульнях 10 тура чэмпіянату раёна па футболе два матчы завяршыліся з аднолькавым лікам 7:1.**

Каманда "Буддэталі" разграміла "Шылавічы", а "Першы Беларускі" – "Стралу".

Матчы 11 тура адбыліся ў нядзелю, 15 верасня. Толькі ў гульні "Шылавічы" – СВК "Чурлёны" было забіта шмат галоў: "Чурлёны" перамаглі 7:2.

Астатнія матчы завяршыліся з хакейным лікам. "Буддэталі" прайгралі "Фламетру" 0:2, "Страла" перамагла "Любань" 1:0, паведаміў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан**.

Лідзіруе ў чэмпіянаце "Першы Беларускі". У каманды стопрацэнты вынік: пасля васьмі матчаў – 24 ачкі. "Фламетр" мае 22 ачкі пасля дзевяці гульняў. На трэцім месцы – "Буддэталі": каманда правяла восем матчаў і зарабіла 18 ачкоў.

Аддзел інфармацыі.

## Камент-эксперт 

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Стаянка, якая стала бясплатнай, пустуе

Я ў шоку))) Машын каля рынку яшчэ больш стала))) Ухітраюцца так ставіць машыны, што і людзям не прайсці па пешаходным пераходзе. Чаму іх не штрафуюць? Так хіба павінна быць? :( ***Той, хто не дайшоў да рынку.***

Калі б уезд на стаянку быў з боку вул. Талстога, яна б не пустовала. ***Sveta.***

### Чаму так многа смецця? Чытач "РГ" запрашае да дыскусіі

Мы ніколі не выкідваем смецце па дарозе, усё збіраем і вязём дадому. Самі з сябе калі-нікалі насміхаемся: усё сваё вязу з сабой. Чаму некаторыя завальваюць сметніцы старой мэбляй? Напэўна, ёсць надзея на тое, што каму-небудзь гэта спатрэбіцца. Мы жывём у прыватным доме, таму смецце ў нас забіраюць у пэўны дзень. Аднойчы мая мама вырашыла выкінуць вялікі палас. Натуральна, ён не залез у пакет з іншым смеццем, таму паставіла яго проста ля варот. І што вы думаеце? Праз некаторы час "пайшоў" наш палас. Мы нават не заўважылі, хто яго забраў. Нам ён не патрэбны, а камусьці і вельмі спатрэбіўся. ***Галіна.***

### Дыпломны праект сабраў віляйчан на свята

Якія прыгожыя мясціны! Дай бог захаваць гэтую прыгажосць. Добра, што так усё дагледжана. А Кірыл малайчына! Такое прыгожае свята зрабіў для землякоў. Аповед і фотаздымкі пераконваюць, што ўсё зроблена з любоўю да людзей і сваёй малой радзімы. Чэрніку рэспект і ўважуха! ***Алесь.***

**ПАРАДЫ ПСІХОЛАГА**

# Жыццё на пенсіі

## Што трэба, каб залатая восень жыцця стала шчаслівай

**МАЛАДЗЕЧНА. Як дапамагчы сталаму чалавеку вярнуць страчаны ім сэнс жыцця? Гэта вельмі тонкае пытанне.**

Чалавеку складана прыняць, што сталася. Пенсійны перыяд, як і любы этап жыцця, мае не толькі адмоўныя, але і станоўчыя моманты. Калі канцэнтравацца толькі на адмоўных момантах, можа здарыцца псіхічны спад асобы. Такі падыход не будзе адлюстроўваць рэальнасць.

Варта не забываць, што сталы чалавек – не адзінокі, ён з'яўляецца часткай групы, якую называюць групай "трэцяга і чацвертага ўзростаў".

Калі чалавек выходзіць на пенсію, ён губляе адказнасць за сваю працу, а значыць, і той стымул, які заахвочваў да развіцця, перастае падтрымліваць форму. Таму надзвычай важна несці адказнасць за сябе, свой унутраны свет, учынкі. Важна заставацца самастойнай асобай.

Першы крок да гэтага – набыць большую незалежнасць ад іншых людзей (гаворка ідзе аб адмове ад сацыяльнай дапамогі). Сталыя людзі часта так зацікаўленыя праблемах дзяцей, знаёмых, што лічаць іх унутраны свет сваім, і губляюць сябе як асобу. Такая з'ява называецца "духоўнае ўтрымальніцтва".

Захоўваць свой унутраны свет, пашыраць інтарэсы – вось што дапамагае вырашыць гэту праблему. Жыццё не абмежаванае толькі дамашнімі праблемамі. Можна цікавіцца столькімі рэчамі, якія могуць стаць нечаканым адкрыццём. Ад калекцыянавання драўляных грыбоў да заняткаў падводным плаваннем ці зімовым купаннем.

Рухавік ва ўсіх сітуацыях – надзея на поспех, жаданне дасягнуць пэўнай мэты. Даведвайцеся пра штосьці новае, імкніцеся да сустрэч, размоў з іншымі, навучыцеся рабіць штосьці незвычайнае – і гэта яшчэ не ўсе шляхі, якія робяць жыццё цікавым. Але ёсць абавязковыя ўмовы для рэалізацыі задуманага – жаданне і вера ў здзяйсненне. Не трэба ставіць звышзадачы, нават сціплы вынік акрыляе і дае сілы для новых пошукаў.

Падчас шматлікіх назіранняў заўважылі: сталыя мужчыны і жанчыны па-рознаму ўяўляюць сябе. Мужчыны лічаць сябе дзелавымі, дысцыплінаванымі, старannымі. Жанчыны – прыязнымі. Такі ўнутраны вобраз часта не адпавядае таму, як сталых людзей успрымаюць іншыя. Частка жанчын старэйшага ўзросту губляюць зацікаўленасць у фізічнай форме, знешнасці. Гэта недапушчальна.

Самаацэнка сталага чалавека звычайна ў сярэднім дыяпазоне, а па шэрагу характарыстык нават вышэйшая. Калі ў жанчын гэта тычыцца ацэнкі свайго характару, зносін з іншымі, то ў мужчын – у працы, духоўных запытах. Асаблівасць у тым, што чалавек пераключаецца на сваё мінулае і дае ацэнку не "сабе сучаснаму", а "сабе мінуламу". Такая пазіцыя небяспечная, бо пазбаўляе перспектывы росту. Значыць, і пазбаўляе будучыні. Таму такія нізкія ацэнкі шчасця і ў жанчын, і ў мужчын сталага ўзросту.

**Умова шчаслівага сёння – абавязкова планаваць будучае.**

Асаблівае месца маюць зносіны з іншымі. Яны актывізуюць камунікатыўны патэнцыял, без якога немагчымае развіццё інтэлекту.

Ініцыятыва, актыўнасць, зацікаўленасць у размове з субяседнікам, імкненне зразумець яго праблемы, спагадлівасць – неабходныя ўмовы не толькі для зносін, але і для развіцця чалавека. Галоўная задача сталага чалавека – захоўваць і выкарыстоўваць гэтыя патэнцыялы.

Слухайце музыку, гуляйце штодня, чытайце, цікаўцеся прыроднымі з'явамі – усё гэта крыніцы павышэння тонусу мозгу, а значыць, працаздольнасці і настрою. Мацней за ўсё танізуюць эмоцыі, якія атрымліваюць ад інтэлектуальнай працы. Навукоўцы вызначылі, што пры гэтым у мозгу выдзяляюцца рэчывы (эндарфіны), якія ўздзейнічаюць гэтаксама, як пэўныя хімічныя рэчывы. Аднак патрэба ва ўражаннях у кожнага свая. Дэфіцыт адчуванняў, як і іх перабольшанне, цягне адмоўны вынік.

**Каб выхад на пенсію не быў раптоўным, рыхтуйцеся да яго загадзя.**

Складзіце спіс спраў. Размяркуйце іх па прыярытэтах.

Прагледзьце ўсе "за" і "супраць" у рэалізацыі задуманага і запішыце гэта на паперы.

Складзіце план на тыдзень, месяц, год, дзесяцігоддзе і гэтак далей. Не складайце грандыёзных планаў. Няхай яны будуць сціплыя, але ў межах рэальнасці.

Абавязкова да дэталяў прадумайце, чым будзеце займацца ў першы дзень пенсіі. Строга выконвайце задуманае.

Сталы чалавек – неад'емная частка грамадства. Многія краіны ступень цывілізаванасці вызначаюць якасцю жыцця дзяцей і сталых людзей.

Неістотна, колькі вам год. Ведайце, што ваша будучыня заўсёды цудоўная. Стаўцеся да сталасці як да каштоўнага часу жыцця. Вы можаце стаць адным з прадстаўнікоў прыгожай сталасці.

**Алена КАМІСАРУК, псіхолаг, паводле кнігі Алены ШУБІНАЙ "Падаўжэнне маладосці. Гляджу і маладзею".**

**ГАРАСКОП (20-26 ВЕРАСНЯ)**


**Авен.** Магчыма, у вас праявіцца цікавасць да гісторыі вашай сям'і. Энергетычны патэнцыя на вышыні, накіроўвайце свае сілы ў новыя сферы.


**Цялец.** Тым, чыё сэрца пакуль свабоднае, перыяд прынясе зорную сустрэчу. Пастарайцеся не прапусціць. Сямейным жа пажадана падумаць удалечыні ад людской мітусні і прыслухацца да голасу інтуіцыі. Ёсць шанс, што праблемы знікнуць самі па сабе.


**Блізняты.** Спадзявайцеся на ўласныя меркаванні, а парады можна прапускаць міма вушэй: яны не такія і добрыя, як здаецца на першы погляд.


**Рак.** Не прыцягвайце да сябе залішняй увагі. Няхай вас не пахваляць за атрыманую перамогу – не бяда. Затое вам і зайздросціць ніхто не будзе, бо любое ўзаемадзеянне з недружалюбна настроеным чалавекам нясе ў сабе непрыемнасці.


**Леў.** Баланс ва ўсім. Вам не трэба адмаўляцца ад таго, што даўно ўвайшло ў прывычку, але калі гэта можа нашкодзіць вашаму здароўю, то карэктуйце свой унутраны свет. Ад гэтага зменяцца і прывычкі.


**Дзева.** Будзьце настойлівыя, дзейнічайце, пакуль справы не пойдуць так, як трэба. Толькі ў нястомнай працы дасягаецца поспех.


**Шалі.** Наступае момант, калі трэба зрабіць няпросты выбар; некаму з вас прыйдзецца ўсур'ёз задумацца аб тым, ці гатовыя вы адступіць ад уласных маральных прынцыпаў.


**Скарпіён.** Калі вы раптам апыняцеся ў цэнтры канфлікту, то не апускайцеся да дробязных крыўдаў і высвятлення адносін, прытрымайце злосць і агрэсію, бо яны будуць дзейнічаць вам на шкоду.


**Стралец.** Удзяліце ўвагу пашырэнню свайго духоўнага і інтэлектуальнага патэнцыялу.


**Казярог.** Старайцеся не заўважаць недахопаў каханых, каб пазбегнуць спрэчак. А яшчэ не хлусце ні іншым, ні сабе.


**Вадалей.** Старайцеся не накопліваць адмоўныя эмоцыі, а спакойна гаварыць пра тое, што вас не задавальняе.


**Рыбы.** Высветліце, чаго вам не хапае ва ўзаемаадносінах з блізкімі, дадайце эмоцый і шчырасці, часцей усміхайцеся. І настрой падымецца, і жыццё наладзіцца.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

**СУДОКУ**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 2 | 4 | | | |
| | 2 | 9 | | 8 | | | 3 | |
| 5 | | 8 | | 7 | | | | |
| | | | | | 9 | 7 | | |
| 7 | 9 | | | | | | 5 | 6 |
| | | 2 | 1 | | | | | |
| | | | | 9 | | 6 | | 8 |
| | 3 | | | 6 | | 2 | 9 | |
| | | | 7 | 1 | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



**РЭПЕРТУАР**

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя **"Выратаваць зямлю"**, 3D (Тайланд, 2013, без узроставых абмежаванняў)
20 верасня – 17.00
21 верасня – 14.30, 16.30
22 верасня – 14.30, 19.00
23, 24 верасня – 19.00
25 верасня – 16.30
26 верасня – 17.00
Кошт білета – 22 000 рублёў.

Моладзевыя прыгоды **"Вось гэта каханне"** (Расія, 2013, да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
20 верасня – 19.00, 21.00
21-25 верасня – 21.00
26 верасня – 19.00, 21.00
Кошт білета – 25 000 рублёў.

Фэнтэзі, трылер **"Расамаха: Бессмяротны"**, 3D (ЗША, 2013, 2 серыі, да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
21 верасня 18.30
22 верасня – 16.30
25 верасня – 18.30
Кошт білета – 40 000-45 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Гістарычныя прыгоды **"Сляды апосталаў"** (Беларусь)
24, 25 верасня – 19.30
Кошт білета – 30 000 рублёў.

Прыгоды **"Таямніца Ягора, ці Незвычайныя прыгоды звычайным летам"** (Расія)
21, 22 верасня – 15.00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Трылер **"Сайлент Хіл 2"** (Францыя)
20-22 верасня – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Баявік **"Няўлоўныя"** (ЗША)
20-22 верасня – 17.30, 19.30
23 верасня – 21.00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Жахі, камедыя **"Дом з паранармальнымі з'явамі"** (ЗША)
24-26 верасня – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

**Тэл. для даведак: 8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*25 верасня* – адкрыццё тэатральнага сезона

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**20 ГАДОЎ НА СЦЭНЕ! "Камедыя"** (камедыя у 2-х дзеях па творах К. Марашэўскага і Ф.Аляхновіча) Уладзімір Рудаў.
25 верасня, серада, 18.00
ПРЭМ'ЕРА. **"Сямейны партрэт з пабочнай асобай"** (камедыя ў 2-х дзеях) Сцяпан Лабазёраў
26 верасня , чацвер, 19.00
ПРЭМ'ЕРА. **"Падобны на Стынга"** (аптымістычная трагедыя ў 2-х дзеях) Ірына Пісьменная
29 верасня, нядзеля, 17.00

Тэатр мае права на замену спектакляў

Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл: **76-17-32, 75-24-17**. E-mail: **modt@tyt.by**.

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

*АДКРЫЦЦЁ ТЭАТРАЛЬНАГА СЕЗОНА*

**"Чырвоная шапачка"** (музычная казка). Я. Шварц.
22 верасня – у 12.00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.* Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

